16 верасня 2016 | № 35 (500)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

Героі і ахвяры «Маркет-Гардэн» Стар. 15

ISSN 2218-2144















# Бацькаў дар

**Светлая ўсмешка, любоў да жыцця і адданасць сваёй справе зачароўвалі тых, хто трапляў у яго арбіту**

Сяргей КАРОЛЬ,
Ірына ВІДАНАВА

**Калі год таму быў апублікаваны наш сумны прэс-рэліз пра сыход бацькі, у беларускім інтэрнэце з'явілася мноства некралогаў, успамінаў, каментараў і допісаў у памяць Аляксея Караля.**



На развітанне з бацькам прыйшлі сотні людзей, няспынным плынню гучалі словы прамоўцаў, а магіла патанула ў жывых кветках. Адгукнуліся людзі з усіх перыядаў багатага зямнога шляху Аляксея — аднакурснікі, журналісты, паплечнікі па партыйным жыцці, прадстаўнікі замежных дыпламатычных місій, даўнія калегі па навуковай працы, у тым ліку тыя, з якімі ён не меў сувязяў з савецкага часу, і тыя, хто апынуўся на іншым баку беларускага палітычнага разлому.

Такая шырыня і моц пачуццяў ад страты ўразілі нас. Вядома, мы ведалі, наколькі разнабаковай была яго дзейнасць, але нават мы не маглі ўявіць, якую вялізарную колькасць людзей ён закрануў у сваім жыцці.

Бацькава светлая ўсмешка, яго бязмежная цікаўнасць, любоў да жыцця і адданасць сваёй справе зачароўвалі тых, хто трапляў у ягоную арбіту. І мы зразумелі — тая самая якасць, якая рабіла яго такім незвычайным чалавекам для іншых, рабіла яго і тым, кім ён быў для нас, — цудоўным, непаўторным бацькам, які, разам з маці, сфарміраваў нас як асобаў, прывіў ідэалы, прынцыпы, інтарэсы, любоў да пісьмовага слова і гуманітарных навукаў. Ад бацькі сыходзіла святло, якое прыцягвала да яго сяброў, калег і паплечнікаў, і ў якім раслі і сталі дарослымі мы.

Мы часта задаваліся пытаннем, што за магічны рэцэпт дапамог бацькам стварыць для нас такую шчаслівую, паўнавартасную сям'ю, дзе панавала каханне. Бацька патлумачыў, што яны з маці самі, без усялякіх кніг па выхаванні, вывелі простыя прынцып, якім і кіраваліся: «Дзеці — такія самыя, як дарослыя, толькі фізічна маленькія і менш дасведчаныя. Таму мы мусім ставіцца да іх як да сабе роўных і вельмі тактоўна накіроўваць іх у развіцці, абапіраючыся на той жыццёвы досвед, які ў нас ёсць, а ў іх пакуль няма».

Таму, відаць, мы не памятаем, каб нас выхоўвалі. Затое цудоўна памятаем, як з намі размаўлялі, абмяркоўвалі, цярпліва тлумачылі, як мы разам гулялі, чыталі, займаліся супольнымі справамі, смяяліся, і, галоўнае, як нам усім разам было цікава і вельмі ўтульна.

Сам бацька з юнацтва і ўсё жыццё заставаўся духоўна вельмі блізкім са сваім бацькам — Сцяпанам Каралём, крышталёна чыстым і высокамаральным чалавекам. Два разы на месяц мы ўсе разам ездзілі на выходныя да дзядулі з бабуляй у Маладзечна. У Мінску бацька стаў часткай інтэлігентнай сям'і сваёй жонкі, нашай маці, дзе панавалі любоў і ўзаемапавага. Менавіта ў такой атмасферы раслі і мы.

З гадамі нашая духоўная сувязь з бацькамі станавілася толькі мацнейшай, незалежна ад адлегласцяў, якія нас падзялялі. У памяці выкрышталізаваліся некалькі важных запаветаў, дадзеных нам бацькам у ненавязлівай, часам паўжартаўлівай форме на розных этапах жыцця, якія моцна паўплывалі на наша асабістае і прафесійнае сталенне.

З маленства — у вачах вобраз бацькі з кнігай ці газетай у руках. У нашай невялікай двухпакаёўцы ў Курасоўшчыне заўсёды было шмат самых розных кніг. Кніг, якія чыталіся, а не збіраліся дзеля прыгожай калекцыі на паліцах. Бацька чытаў удумліва, падкрэсліваючы важныя радкі і пакідаючы на палях нататкі. Былі аўтары і творы, да якіх ён вяртаўся шматкроць.

Дзецьмі мы любілі ўладкавацца пад бокам у бацькі і разам чытаць кожны сваю кніжку. Калі выраслі, сталі абменьвацца новымі кніжнымі здабыткамі і дзяліцца ўражаннямі. Рэгулярна па пошце нам прыходзілі паведамленні аб тым, што ў мінскай краме «Падпісныя выданні» нас чакаў чарговы том поўнага збору твораў — на іх, айчынных і замежных аўтараў, якіх толькі дазваляла тады сістэма, бацькі падпісваліся ўвесь час.

Аднойчы сусед-шафёр дзядзька Юзік, які зайшоў перахапіць пяць рублёў да палучкі, агледзеўшы паліцы, якія займалі ўсю паверхню сцяны, паравёў дых і сказаў маці: «Волечка, у вас жа «Жыгулі» на паліцах стаяць!» Дзякуючы гэтым паліцам наша кватэра ніколі не набыла стандартнага набору савецкага быту — секцыі і мяккага кутка. Затое ў ёй былі адмысловыя фатэлі, як у бібліятэцы, у якіх было вельмі ўтульна чытаць. Бацька называў гэта «інтэлектуальнай утульнасцю».

І бацька, і маці заўжды шмат працавалі, у тым ліку на выходных. Але нягледзячы на гэта, у нашай памяці бацькі амаль увесь час былі разам з намі. Пазней мы неяк сказалі бацьку, што калі ў нас будуць свае дзеці, то мы таксама будзем адмыслова знаходзіць час, каб правесці яго разам з імі. Бацька адрэагаваў імгненна: «Ідэя штучнага стварэння нейкага асобна вызначанага часу для дзяцей — гэта шкоднае глупства. Мы з маці ніколі гэтага не рабілі. Мы проста бралі вас у нашае жыццё, з усімі яго часткамі, у тым ліку працай».

Бацькі ніколі не адмяжоўваліся ад нас. Пасля заняткаў у мастацкай школе сын спяшаўся да бацькі ў навуковы інстытут, дзе, набраўшы з першага паверха службовы нумар, які ён памятае і зараз, узбягаў па напаўзмрочнай лесвіцы ў бацькава кабінет, каб пасядзець за ягоным сталом, паразмаўляць, а потым разам ісці па цэнтральных вуліцах Мінска. Падчас гэтых шпацыраў бацька распавядаў пра гістарычныя падзеі, што адбываліся на гэтых вуліцах, ці пра гістарычных асобаў, якія жылі ў гэтых будынках.

Працяг на стар. 5 »

# «Новы Час» зноў не пажаданы

Аксана КОЛБ

**Своеасаблiва павіншавалі ўлады нашу газету з выхадам 500-га нумару. У чарговы раз кіраўніцтва РУП «Белсаюздрук» і РУП «Белпошта» адмовіла ў распаўсюдзе «Новага Часу» праз сваю сетку.**

Яшчэ 12 жніўня рэдакцыя накіравала просьбу аб распаўсюдзе «Новага Часу» праз гандлёвую сетку РУП «Белсаюздрук» і ўключэнні ў падпісны каталог РУП «Белпошта».

«Газета «Новы Час» — штотыднёвік, які надае вялікую ўвагу нацыянальнай культурнай і гістарычнай тэматыцы і актыўна прапагандуе палітыку кіраўніцтва нашай краіны ў той частцы, якая накіравана на захаванне і ўмацаванне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, а таксама на захаванне і распаўсюджванне беларускай мовы, — было напісана ў лісце да гэтых установаў. — «Новы Час» — адно з нямногіх рэспубліканскіх выданняў, якія выдаюцца цалкам на беларускай мове. Спадзяемся, што 2016 год, абвешчаны кіраўніком дзяржавы Годам культуры, стане добрай нагодай для пачатку нашага працяглага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва».

І што вы думаеце нам адказалі? РУП «Белсаюздрук» абмежаваўся адным сказам, у якім паведаміў, што распасюд «Новага Часу» праз іх гандлёвую сетку «не плануецца».

РУП «Белпошта» спадобілася адказаць амаль на старонку, дзе патлумачыла, што ўключаць нас у каталог яны не абавязаны.

Такім чынам, цуду не адбылося. Хаця пэўныя спадзяванні ўсё ж былі. Хаця б таму, што гэтым разам я прасіла заступіцца за газету намесніцу міністра замежных спраў Алену Купчыну. І яна абяцала сваю падтрымку, бо, казала, «газета цікавая». Але, відаць, МЗС цяпер менш важны за Мініфарм. Яно і праўда. Выбары ўжо адбыліся, Еўропа нікуды не дзенецца — прызнае. А беларускай мовы, відаць, і так багата.

# «Праспект нацыянальнага сцяга»

**«Малады Фронт» (зарэгістраваны ў Чэхіі) заклікаў на акцыю, што распачнецца 19 верасня а 19.00 на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.**

19 верасня 1991 года парламент Беларусі зацвердзіў дзяржаўнымі сімваламі нашай краіны бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай, а краіна з таго дня называецца — Рэспубліка Беларусь.

У 25-ю гадавіну гэтай вялікай даты запрашаем патрыётаў на святочную акцыю «Праспект нацыянальнага сцяга». Разам падымем уздоўж праспекта нацыянальныя сцягі, засведчыўшы гэтым, што бел-чырвона-белы сцяг жыве і хутка зноў стане дзяржаўным сцягам Беларусі.

19 верасня, а 19 гадзіне, сустракаемся на плошчы Кастуся Каліноўскага (былая Кастрычніцкая) — і падымаем над Беларуссю бел-чырвона-белы сцяг!» — гаворыцца ў заяве на сайце «Маладога фронту».

# Выбары: назіранні назіральніка

Арцём ЛЯВА

**Апошняя выбарчая кампанія і арганізацыя галасавання хутчэй дэлегітымізуюць уладу ў вачах тых, хто меў хоць якое дачыненне да выбараў у якасці назіральніка, даверанай асобы кандыдата, журналіста, сябра камісіі, удзельніка «каруселі».**




Калі раней на выбарах адбываліся махінацыі на ўзроўнях датэрміновага галасавання, падчас падліку галасоў, падчас звядзення лічбаў у акруговых камісіях, гэта рабілася патаемна. Камісіі ўсімі намаганнямі стараліся схаваць факты фальшаванняў. Цяпер альбо задзейнічаныя ў выбарчай сістэме выканаўцы расслабіліся ад беспакаранасці, альбо яны так нягегла імкнуцца прадэманстраваць Еўропе «прагрэс» у арганізацыі выбараў і адначасова зацята выконваць дырэктывы «зверху» па яўцы. У любым выпадку, махінацыі выбарчыя камісіі сёлета здзяйснялі нахабна і адкрыта.

Перш за ўсё гэта тычыцца яўкі выбаршчыкаў. Практычна паўсюль на выбарчых участках назіральнікі фіксавалі прыпіскі колькасці прагаласаваўшых. Напрыклад, на выбарчым участку 607 Каліноўскай выбарчай акругі №108 на трэці дзень датэрміновага галасавання яўка на паперы (у пратаколе) была павялічана на 161 чалавек (рэальна прагаласавала 75), па выніках датэрміновага галасавання было прыпісана яшчэ 90 чалавек. І ў дзень галасавання прыпіскі дасягнулі апагею: паводле падліку назіральнікаў, на ўчастку галасавалі 343 выбарца, паводле «падлікаў» камісіі — 712 (!!!).

На ўчастку 625 Каліноўкай акругі № 108 зафіксавалі ўкід бюлетэняў. Паказальна, што акуратны стос бюлетэняў у празрыстай скрыні для датэрміновага галасавання праляжаў палову дня і ўсю ноч, пакуль яго не сфатаграфаваў журналіст. Нават кіраўніца ЦВК заявіла, што не сутыкалася з падобным у сваёй практыцы.

Назіральнікі акругі 108 фатаграфавалі пячаткі (камісія дазваляла) на скрынях для датэрміновага галасавання і бачылі, што яны адрозніваюцца.

У лякарнях, інтэрнатах і ВНУ актыўна выкарыстоўваўся прымус да галасавання, асабліва датэрміновага. Паўсюдна ў мэтах падвышэння яўкі выкарыстоўваліся так званыя «каруселі», калі бясспраўныя супрацоўнікі бюджэтных установаў, якія моцна залежаць ад мясцовага начальства, накіроўваюцца на розныя ўчасткі і галасуюць па некалькі разоў.

Увогуле, паводле праваабаронцаў, панятак «датэрміновае галасаванне» згубіў свой сэнс: на выбарах адбываўся шматдзённы галасавальны марафон: колькасць галасаваўшых датэрмінова перавалілa за 30%.

Проста неверагодныя факты фальшаванняў фіксаваліся падчас падліку галасоў. І хаця падлік традыцыйна не праходзіў галосна і адкрыта (большай часткі бюлетэняў і пазнакаў у іх не было відаць), на ўчастках 618 і 625 назіральнікі запісалі на аўдыё і відэа лічбы, што агучваў старшыня камісіі падчас асобнага падліку датэрміновага галасавання, галасавання на даму і галасавання ў асноўны дзень. Сумы адпаведных лічбаў папросту не сыходзіліся з выніковымі лічбамі пратаколу: у адных кандыдатаў галасы па выніку адбіраліся, іншым дадаваліся, таксама штучна змяншалася колькасць тых, хто галасаваў супраць усіх.

# Германія культурна ахіне Беларусь

Генадзь КЕСНЕР

**Ад 15 верасня да 31 кастрычніка ў Беларусі традыцыйна пройдуць Тыдні Германіі. Мерапрыемствы адбудуцца не толькі ў Мінску, але і ў іншых рэгіёнах краіны.**

Размах Тыдняў Германіі сапраўды ўражвае. Пра гэта ў панядзелак распавялі ініцыятары і арганізатары імпрэзаў.

Тыдні Германіі ладзяцца Пасольствам ФРГ сумесна з германскімі культурніцкімі пасярэднікамі і арганізацыямі культуры ў Беларусі ў супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі.

Намеснік кіраўніка дыпламатычнай місіі Германіі ў Беларусі Аня Лютар нагадала, што сёлетнія Тыдні Германіі праходзяць ужо трынаццаты раз. «Але сёлета мы маем яшчэ і адзін юбілей — у Брэсце гэтая падзея адбудзецца ўжо дзясяты раз», — з задавальненнем канстатавала спадарыня віцэ-амбасадар.

Паводле яе словаў, сёлетняя праграма, як і папярэднія, надзвычай разнастайныя. Цягам шасці тыдняў беларусам прапануюцца кінапаказы і тэатральныя імпрэзы, канцэрты класічнай музыкі, джазу, року, паэтычны слэм, літаратурны калаж, аўтарскія чытанні, мастацкія выставы, майстар-класы і семінары ў адзінаццаці гарадах Беларусі. Апроч сталіцы, гэта Полацк, Віцебск, Орша, Маладзечна, Гродна, Баранавічы, Слуцк, Брэст, Пінск, Мазыр.

Пачалася Тыдні Германіі 15 верасня ў Мінскім Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Яханэса Раў Літаратурным калажам «Нянавісць — гэта недахоп фантазіі», які складаецца з тэкстаў Аліcы Герц-Зомэр, Георга Кафкі, Леа Штраўса, Ільзы Вебэр, Віктара Ульмана ды Паўля Арона Зандфорта. Гэты праект рэалізуецца пад патранажам былога федэральнага канцлера Германіі доктара Гельмута Коля і дарадцы фонду «Ахвярам Халакоста» прафесара Фелікса Кольмера.

Адным з галоўных арганізатараў і суарганізатараў імпрэзаў у рамках Тыдняў Германіі з'яўляецца Інстытут імя Гётэ ў Мінску. Яго дырэктар Франк Бауман звярнуў увагу на тыя мерапрыемствы, якія могуць выклікаць найбольшую цікавасць. Гэта і «Джазавы мост» — нямецка-беларускі канцэрт Леона Гурвіча (ён з тутэйшых, але ўжо шмат гадоў жыве ў Германіі) ды Лаў Ньюкірк, і спектакль «Місія» паводле Хайнера Мюлера ў выкананні аднаго з лепшых калектываў краіны — Гановерскага дзяржаўнага драматычнага тэатра, і імпрэза з удзелам нямецкага рок-музыкі, спевака і аўтара тэкстаў з Берліна Дэні Дзюка. «Той, хто не ведае нямецкай мовы, атрымае сапраўдную асалоду ад музыкі і выканання, а той, хто мову разумее, яшчэ і захопіцца тэкстамі Дэні», — адзначыў Франк Бауман. Апроч таго, ён запрасіў усіх цікаўных кінааматараў на Тыдзень нямецкага кіно, які пройдзе ў кінатэатры «Перамога» 17–21 кастрычніка.

У Гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна 12 кастрычніка з нагоды выхаду ў свет зборніка дакументаў і матэрыялаў «Трасцянец: трагедыя народаў Еўропы, памяць у Беларусі» адбудзецца вечарына «Барацьба за памяць: вывучэнне лагера смерці Трасцянец ад 1965 года да цяперашняга часу».

Кіраўнік інфармацыйнага бюро Нямецкай службы акадэмічных абменаў (DAAD) у Мінску Керсцін Мюлер паведаміла, што ў рамках Тыдняў Германіі пройдзе практычны семінар для беларускіх студэнтаў юрыдычных спецыяльнасцяў з удзелам адмыслоўцаў з ФРГ, а таксама мерапрыемства для выкладчыкаў і кіраўнікоў беларускіх ВНУ па праблемах увакоджання вышэйшых навучальных установаў нашай краіны ў Балонскі працэс адукацыі.

Цягам шасці тыдняў у Беларусі адбудуцца дзясяткі самых розных мерапрыемстваў. Што да будучыні, то, як падкрэсліла Аня Лютар, арганізатары ў бліжэйшыя год-два пастараюцца зрабіць усё магчымае, каб Тыдні Германіі адбываліся ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. Больш падрабязную інфармацыю пра тое, што будзе адбывацца ад 15 верасня да 31 кастрычніка, можна будзе атрымаць на інтэрнэт-старонцы Пасольства ФРГ www.minsk.diplo.de

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Плюс — мінус ВУП

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Пакуль уся краіна абірала тых, хто будзе зацвярджаць бюджэт на наступны год, ва ўрадзе ламалі галаву над тым самым дакументам. Як заўсёды, сцэнары два: добры і дрэнны.**

Як заявіў прадстаўнік Мінэканомікі Юрый Зюзянкоў, згодна аптымістычнаму сцэнару, рост ВУП складзе 1,5% — пры сярэдняй цане нафты на сусветным рынку на ўзроўні 45 долараў за барэль, сярэднегадавым абменным курсе ў 70 расійскіх рублёў за долар, а таксама пры росце ВУП Расіі на 1%. Песімістычны сцэнар прадугледжвае нафту па цане 35 долараў за барэль, сярэднегадавы абменны курс у 75 расійскіх рублёў за долар і зніжэнне расійскай эканомікі на 1%. У гэтым выпадку, на думку чыноўнікаў, беларускі ВУП вырасце толькі на 0,2%.

Эканамісты, напрыклад, эксперт «Ліберальнага клуба» Антон Болтачка, адзначаюць, што параметры для бюджэту выбраныя адэкватна — менавіта ад гэтых фактараў у вялікай ступені Беларусь і залежыць. У той жа час прагноз эканамічных уладаў наводзіць на супярэчлівыя думкі: яны пазначаюць, што мы фактычна не змаглі дыверсіфікаваць сваю эканоміку — наша залежнасць ад Расіі застаецца досыць моцнай.

А значыць, нават песімістычны сцэнар выглядае нерэалістычным. Сапраўды, які можа быць рост ВУП Беларусі пры спадзе ВУП Расіі? Непазбежна паменшыцца наш тавараабарот, у Расіі будзе менш грошай, каб набываць беларускія тавары, знізіцца экспарт... І, «хутчэй за ўсё, гэта будзе працяг рэцэсіі, магчыма, у межах 1%, калі нічога не зменіцца», адзначае Болтачка.

Эканаміст Леанід Злотнікаў заўважае, што на дынаміку ВУП краіны будзе ўплываць і іншы шэраг тэндэнцый. Па-першае, беларуская эканоміка дэманструе страту канкурэнтаздольнасці — ужо другі год бесперапынна ідзе працэс пацанення нашага экспарту ў адносінах да імпарту. Другі трывожны фактар — беларусы працягваюць праядаць свае назапашванні. А значыць, у іх застаецца ўсё менш рэсурсаў для падтрымкі ўнутранага рынку. І, па-трэцяе, мы выйшлі амаль на мяжу плацежаздольнасці банкаўскай сістэмы. Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць расце вельмі хутка — на 40% за паўгоддзе. Гэта значыць, фінансавы стан прадпрыемстваў пагаршаецца.

Такім чынам, робіць выснову Леанід Злотнікаў, сёння няма ніякіх падставаў лічыць, што ў 2017 годзе можна чакаць росту ці хаця б паслаблення падзення ВУП.

Спрачацца з адмыслоўцамі цяжка. Нават Белстат зазначае, што ў першым паўгоддзі гэтага года знешнегандлёвы абарот сінявокай упаў на 15,4%. Экспарт паменшыўся на 18,6%, імпарт — на 14,4%.

Пры гэтым мы сапраўды «праядаем» грошы. Прычым, не толькі асабістыя. Напрыклад, у мінулым годзе «Гомсельмаш» атрымаў дзяржпадтрымку ў амаль паўмільярда долараў. Дакладней — 425,8 мільёна. Гасіць даўгі холдынг павінен быў пачаць з 1 ліпеня 2016 года. Аднак указам кіраўніка краіны № 337 ад 12 верасня тэрмін пачатку вяртання пазык перанесены аж на 2019 год.

Сапраўды, адкуль жа «флагману беларускага машынабудавання» ўзяць грошы, калі па выніках 2015 года холдынг апынуўся на другім месцы ў краіне па аб'ёме чыстай страты — мінус 1,922 трыльёна недэмінаваных рублёў. Па выніках першага квартала гэтага года прадпрыемства захавала другую пазіцыю з канца сярод усіх ААТ краіны — мінус 922,5 мільярда недэмінаваных рублёў. Гэта значыць каля 45 мільёнаў долараў чыстай страты.

**Пратэрмінаваная крэдыторская запазычанасць расце вельмі хутка —**

**40%**

**за першыя шэсць месяцаў 2016 года**

І так амаль паўсюль. Нягледзячы словы Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што дзяржпадтрымка будзе аказвацца толькі тым, хто гэтага заслугоўвае і можа вярнуць пазыкі, мы працягваем фінансаваць стратныя прадпрыемствы. А між тым, гэта тое самае, пра што казаў Леанід Злотнікаў, — пратэрмінаваная запазычанасць.

Аплачваць жа гэтыя пратэрміноўкі будзе, як заўсёды, насельніцтва. 13 верасня пад старшынствам прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова прайшло пасяджэнне Саўміну, на якім разглядалася архітурботнае пытанне па «павышэнні эфектыўнасці працы і зніжэнні затрат у жыллёва-камунальнай гаспадарцы і энергетыцы». Што нам сказалі ў чыстай рэшце? Што «жыроўкі» патаннеюць, а ЖКГ нарэшце вывела справядлівы кошт сваіх паслугаў?

На жаль, з дакладнасцю да наадварот. «Аблвыканкамам і Мінскаму гарвыканкаму ўстаноўлены жорсткія гранічна дапушчальныя планава-разліковыя цэны на асноўныя віды жыллёва-камунальных паслуг, даведзены канкрэтныя заданні па зніжэнні выдаткаў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы», — канстатаваў Кабякоў. Аднак «шэраг аблвыканкамаў і арганізацый жыллёва-камунальнай гаспадаркі не ўкладваюцца ў даведзеныя ім планава-разліковыя цэны. Прымаемыя на месцах рашэнні не заўсёды дастаткова эфектыўныя», — адзначыў прэм'ер.

Рэзервы Кабякоў бачыць у «зніжэнні пратэрмінаванай запазычанасці насельніцтва за прадстаўленыя жыллёва-камунальныя паслугі». То бок, у нашых кішэнях.

І яшчэ адзін спосаб параўнальна сумленнага ад'ёму грошай у насельніцтва прапанаваў Ігар Марзалюк, былы член Савета Рэспублікі, а цяпер, па выніках электаральнай кампаніі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў №6. Ён мяркуе неабходным увесці адказнасць... за няўдзел у выбарах. Штрафы за негаласаванне, на ягоную думку, кампенсуюць частку выдаткаў на правядзенне тых самых выбараў.

Цікава, ці такі наказ давалі яму выбаршчыкі Магілёўскай-Ленінскай выбарчай акругі № 84? Можа быць, тым людзям ужо зараз пачаць збіраць подпісы за адкліканне дэпутата?

Праўда, схема можа быць больш простая. Трэба браць грошы не за няўдзел у выбарах, а за ўдзел у іх. Разумеючы, што на выбары ходзіць, па словах нашых прапагандыстаў, найбольш свядомая і адказная частка электарату — хай яны адразу там і заплацяць за магчымасць абраць свайго дэпутата. Прычым, бюлетэні выдаваць толькі пры наяўнасці квітка аплаты за ўдзел у выбарах. Гэта будзе значна прасцей, чым ганяцца за тымі, хто ў выбарах не ўдзельнічаў.

І яшчэ адна кепская навіна для «Беларуськалію». Урад Расіі «насаліў» беларускаму вытворцу. З 1 лістапада соль уключаная ў спіс прадукцыі, якая падпадае пад харчовае эмбарга. Гаворка ідзе пра соль сталовую і дэнатураваную, хларыд натрыю чысты, растворы ці не растворы ў вадзе, які змяшчае або не змяшчае дадаткі агентаў, якія перашкаджаюць зліпанню або забяспечваюць сыпкасць; ваду марскую.

Цікава, як расіяне будуць знішчаць «эмбаргавую» соль? У адрозненне ад кілбасы, садавіны і сыру, трактарам яе не расплюшчыш.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Юрый Хадыка



**Прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук, заснавальнік БНФ «Адраджэньне» Юрый Хадыка памёр у ЗША. Яму было 78 гадоў.**

«Бацькі з намі больш няма», — напісаў у фэйсбуку яго сын Канстанцін, які і паведаміў сумную вестку. Юрый Хадыка апошнія месяцы свайго жыцця правёў у сына ў штаце Каларада (ЗША). Згодна з тэстаментам, цела будзе крэміравана ў ЗША, а пахаваюць прах у Беларусі.

Юрый Хадыка нарадзіўся ў Мінску 23 чэрвеня 1938 года. Зрабіў кар'еру ў фізіцы, узначальваў секцыю аптычна-электронных сродкаў разведкі ў камісіі Акадэміі навук СССР па распрацоўцы прагнозу развіцця ўзбраенняў, абараніў доктарскую «Аптычныя характарыстыкі паходняў балістычных ракет», аўтар каля 150 навуковых прац па фізіцы.

Юрый Віктаравіч таксама браў удзел у зборы матэрыялаў (экспедыцыі) і напісанні «Зводу помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». У 1979 годзе адкрыў пры АН БССР Музей старажытнабеларускай культуры. З 1988 года — намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту (да 2007-га), у 1997–2000 уваходзіў у назіральную раду Беларускага Хельсінкскага камітэта, быў прарэктарам Народнага ўніверсітэта.

## Алесь Лагвінец



**Палітык збіраецца пазмагацца за пасаду старшыні Руху «За Свабоду».**

«Я добра адчуваю настроі людзей і раблю тое, у што веру. Я шчыры і сумленны чалавек, здольны актыўна і адкрыта весці грамадска-палітычную дзейнасць без штучнасці і камбінавання. Маю адпаведную адукацыю, прафесійныя дасягненні і ведаю еўрапейскія мовы, — пералічвае свае перавагі Лагвінец. Зараз ён займае пасаду намесніка старшыні. — Я ганаруся тым, што сотні маіх студэнтаў удзячныя мне за атрыманыя веды і навыкі, таму буду вылучаць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні руху "За Свабоду"».

Алесь Лагвінец нарадзіўся ў 1972 годзе. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці міжнародныя адносіны (1995), магістратуру ва ўніверсітэце Рабэра Шумана ў Францыі (1999), польскую дыпламатычную акадэмію (2005). Працаваў перакладчыкам у Еўрапарламенце (валодае англійскай, французскай і польскай мовамі), выкладчыкам у ЕГУ. У межах «Беларускага калегіюму» выкладае курс аб інтэграцыйных працэсах і інстытуцыях ЕС. З 2012 года з'яўляецца намеснікам старшыні Руху "За Свабоду".

Галасаванне па пытанні выбару старшыні адбудзецца 16 кастрычніка. Вядома, што на пасаду кіраўніка РЗС будзе таксама вылучацца Юрась Губарэвіч, які сёння з'яўляецца першым намеснікам старшыні. Лідарам арганізацыі ад моманту яе заснавання ў 2006 годзе з'яўляецца былы кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч.

## Марыяна Шчоткіна



**Былая міністарка працы і сацыяльнай абароны мяняе працу. 13 верасня ў Мінску яна была абраная членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі.**

Адзначым, што, стаўшы членам Савета Рэспублікі ад Мінска, Марыяна Шчоткіна пазбаўляецца сваёй пасады міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі. Згодна з дзейным заканадаўствам, нельга быць адначасова і сенатарам, і членам урада. Шчоткіна ўжо падала абавязацельства пакінуць уласную пасаду ў выпадку абрання яе членам верхняй палаты парламента.

Нагадаем, у мінулым годзе беларусы назвалі Марыяну Шчоткіну «самым антынародным міністрам». У самы разгар крызісу яна прапанавала беларусам «круціцца» і працаваць на дзвюх працах. У той жа час яна дабудоўвае дом у мінскім урадавым пасёлку «Дразды». На гэты дом сярэднестатыстычнаму беларусу давялося б зарабляць амаль 200 гадоў.

Пры гэтым яе моцна абурае, што незалежныя СМІ пішуць пра яе нерухомасць і даходы.

# Чаго чакаць ад дэпутатак?



Сяргей ПУЛЬША

**Алена Анісім з Таварыства беларускай мовы і Ганна Канапацкая з АГП сталі дэпутаткамі Палаты прадстаўнікоў. Неверагодна, але факт: упершыню за 12 гадоў у парламенце з'явіліся апазіцыянеркі.**

### Нечаканая Канапацкая

Таго, што прадстаўніца АГП трапіць у Палату прадстаўнікоў, не чакаў ніхто. Бо самі прадстаўнікі АГП падчас кампаніі нават удзельнікаў выбараў не называлі кандыдатамі: казалі, як і раней, — «спікеры». І ўся іх праца была скіраваная не на перамогу, а на «тлумачальныя працэсы» з людзьмі. Аднак Ганна Канапацкая ў парламент патрапіла. Чаму?

У рознага кшталту аналітыкаў і экспертаў ёсць, у асноўным, дзве версіі. Па-першае, улады шчоўкнулі па носе Тацяну Караткевіч, якая была канкурэнткай Канапацкай на акрузе. Маўляў, нягледзячы



на прэзідэнцкія выбары, яна не з'яўляецца лідарам. Усё ў звыклай парадыгме, як і раней, калі кандыдатаў у прэзідэнты ў 2010 годзе не прапусцілі ў парламент на выбарах–2012. І другая прычына: пасеяць раскол у самой АГП. Як жа: тыя, хто найбольш гучна казаў пра «не ўбудоўвацца ва ўладу», пра тое, што ў краіне няма свабодных і справядлівых выбараў, апынуліся ўбудаваныя ва ўладу ў выніку выбараў несвабодных і несправядлівых.

Гэта амаль удалося. Па словах Анатоля Лябедзькі, даведаўшыся пра перамогу Канапацкай, увесь паслявыбарчы дзень ён кансультаваўся з калегамі па правацэнтрысцкай кааліцыі, з іншымі «спікерамі» ад АГП і з Палітрадай партыі наконт далейшых дзеянняў. У выніку было вырашана, што Канапацкую варта пакінуць у парламенце. На думку партактыву, яна там прынясе больш карысці, чым будзе шкоды ад здачы дэпутацкага мандату. Канапацкая будзе прасоўваць прапановы і законапраекты, якіх у АГП назапасілася багата.

Ганна Канапацкая на першай прэс-канферэнцыі ў якасці абранага дэпутата зазначыла, што з'яўляецца, безумоўна, партыйным кандыдатам. А значыць, будзе праводзіць у парламенце палітыку АГП. Першыя яе законапраекты будуць накіраваныя на змяненне выбарчага заканадаўства, а другія — на стварэнне спрыяльнага бізнес-клімату. Найперш, для прадпрымальнікаў. Ганна таксама паабяцала скасаваць указ пра падатак на дармаедства.

Ацэньваючы сваё траплянне ў Палату прадстаўнікоў, Канапацкая зазначыла, што яна сама і яе каманда даволі моцна працавалі падчас выбарчай кампаніі. І выказала ўпэўненасць, што перамагла б і ў тым выпадку, калі б выбары былі свабоднымі і справядлівымі.

### Анісім. Прамашка ці саступка?



Улады, найперш, заняліся «выбіваннем» з выбарчай гонкі кіраўніка ТБМ Алега Трусава. Менавіта на Чкалаўскую выбарчую акругу №96 Мінска, дзе балатаваўся Трусаў, было вельмі багата нараканняў наконт разнастайных парушэнняў у назіральнікаў. На Стаўбцоўскую выбарчую акругу Анісім, здаецца, увагі ніхто не звярнуў.

Дарэчы, сам Трусаў зараз і не хавае, што разлічваў менавіта на гэта. «Задача была — правесці ў парламент Алену Анісім, а я выконваў функцыю своеасаблівага раздражняльніка, з вялікім поспехам адцягваючы на сябе ўвагу, прымушаючы ўсе сілы кінуць супраць мяне. Як вынік — па маёй акрузе парушэнняў, мабыць, больш, чым дзе па краіне. Мы тры гады рыхтаваліся, каб правесці яе ў парламент, і паспяхова гэта ажыццявілі», — сказаў ён «Радыё Свабода».

Алена Анісім кажа, што найпершая яе задача як дэпутата — спрыяць таму, каб беларуская мова стала рэальна дзяржаўнай і штодня гучала ў парламенце. Яна ўжо зараз гатовая вынесці на разгляд дэпутатаў праект закона аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы. Гэты законапраект быў распрацаваны ТБМ і прапаноўваўся да разгляду дэпутатам мінулага склікання, але не быў падтрыманы.

У прыярытэтах Алены Анісім — нацыянальны ўніверсітэт з беларускай мовай выкладання і нацыянальны, выключна беларускамоўны тэлеканал.

Прыхільнікам жа «спачатку каўбасы, потым мовы» Анісім таксама абяцае ўвагу. Па яе словах, трэба перагледзець сістэму заробкаў, каб не было такой моцнай разбежкі паміж аплатай працы дэпутата-бюджэтніка і работніка культуры, настаўніка, медсястры. Наспела пенсійная рэформа, а не проста падвышэнне пенсійнага ўзросту. Трэба зрабіць больш празрыстай і прадказальнай сістэму падаткаабкладання. І «стварыць максімальна спрыяльныя ўмовы для таго, каб людзям хацелася зарабляць менавіта ў нашай краіне».

Падаецца, з эканамічнага боку ў Анісім і Канапацкай — амаль поўнае ўзаемапаразуменне. Хаця яны, як паведаміла сама спадарыня Алена, пакуль што не знаёмыя.

Вынік выбараў Анісім лічыць заканамерным. Па яе словах, на асобных участках за яе прагаласавала 75% выбаршчыкаў. У цэлым ЦВК намалявала ёй 40,5% галасоў выбаршчыкаў.

### Ці будзе плён?

Канешне ж, двое дэпутатаў ад апазіцыі сярод іншых 108 дэпутатаў надвор'я ў Палацы прадстаўнікоў не зробяць. Тым не менш, варта спадзявацца, што парламент будзе крыху весялейшы. Прынамсі, будзе выпраўленая тая ганебная лічба, якая з'явілася па выніках дзейнасці Палаты прадстаўнікоў пятага склікання. Нагадаю, што 110 дэпутатаў «пятай» палаты за чатыры гады парламентарства самі падрыхтавалі толькі тры законапраекты. У астатнім яны падпісвалі тое, што спускаў ім Цэнтр законапраектнай дзейнасці пры Адміністрацыі прэзідэнта.

І ў Канапацкай, і ў Анісім ужо зараз ёсць што прапанаваць. Пытанне ў тым, што іх прапановы павінны знайсці падтрымку ў астатніх дэпутатаў. Ці знойдуць апазіцыянеркі аднадумцаў, будзе вядома на працягу першай паловы года працы ППНС №6. Але патэнцыял для супрацы ёсць.

Найперш, Канапацкая і Анісім будуць падтрымліваць адна адну. І разам у іх будзе вялікае, я б нават сказаў, неўзаранае, поле для дзейнасці. Канапацкая як прадпрымальнік і юрыст у сферы замежных інвестыцый будзе акучваць у заканадаўчым органе «моцных гаспадарнікаў». Прадстаўнікоў кіроўнага корпусу розных прадпрыемстваў у парламенце — каля 25 чалавек, сярод якіх ёсць нават начальнік зборачнага цэху ААТ «Белшына». Анісім будзе працаваць сярод культурнай, мастацкай і адукацыйнай інтэлігенцыі. Розных дырэктараў навучальных установаў і музеяў у ПП — паўтара дзясяткі. Першая сцяжынка Анісім нават не да Канапацкай (з ёй і так усё зразумела), а да дэпутата ад Кальварыйскай акругі №104 Міхаіла Мілаванава, які нават на агітацыйны плакат ЦВК зняўся ў вышыванцы.

То бок, амаль трацiну дэпутатаў ПП можна запісаць у патэнцыйныя саюзнікі дзвюх апазіцыянерак.

### Што атрымала ўлада?

Як трапна выказаўся Віктар Марціновіч, «сітуацыя ў эканоміцы такая, што на поўную адсутнасць апазіцыі ў парламенце не хапае грошай». Але, нягледзячы на пропуск у Палату прадстаўнікоў дзвюх прадстаўніц апазіцыі, улада наўрад ці дасягнула сваіх мэтаў. Бо галоўная мэта была — «прадаць» Захаду гэтыя выбары. Ці, зменшага, пазначыць на іх «прагрэс», дастатковы для таго, каб краіне далі інвестыцыі і крэдыты. Канешне, канчатковыя вынікі міжнародныя назіральнікі падвядуць яшчэ не хутка — месяцы праз два. Аднак тое, што ўжо агучана папярэдне, не выклікае ніякага аптымізму.

Так, Дзярждэпартамент ЗША «вітаў мірны характар праведзеных 11 верасня ў Беларусі парламенцкіх выбараў», што не дзіўна. Пасля таго «бруталу», які ўчынілі беларускія ўлады на прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, правядзенне «мірных» выбараў вітаюць усе. Але ў той жа час, гаворыцца ў заяве, Беларусь не здолела выканаць свае абавязацельствы наконт свабодных і справядлівых выбараў.

Гэта значыць, беларуская пазіцыя ў перамовах з Міжнародным валютным фондам, як мінімум, не палепшыцца.

Прадстаўнікі назіральных місій БДІПЧ, Парламенцкай асамблеі АБСЕ і аналагічнай асамблеі Савета Еўропы на паслявыбарчай канферэнцыі ледзьве не аднагалосна заявілі, што расчараваныя прагрэсам (а дакладней — яго адсутнасцю) у беларускай выбарчай практыцы. Яны адзначалі, што краіна практычна не выканала рэкамендацый АБСЕ, якія былі дадзеныя пасля прэзідэнцкіх выбараў 2015 года. І, падаецца, больш не вядуцца на чарговыя абяцанкі «зрабіць усё магчымае пасля гэтых выбараў». Прынамсі, спецыяльны каардынатар місіі кароткатэрміновых назіральнікаў АБСЕ на выбарах у Палату прадстаўнікоў, намеснік старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ Кент Харстэд зазначыў, што такія абяцанкі чуе кожны раз (а гэты раз для яго быў чацвёртым), і кожны раз нічога не змяняецца.

Таму і з еўрапейскімі інвестыцыямі і крэдытамі будзе цяжкавата.

І, відавочна, Палату прадстаўнікоў у міжнародных парламенцкіх арганізацыях па-ранейшаму будуць лічыць нелегітымнай і незаконна абранай. Нават нягледзячы на наяўнасць у ёй Анісім і Канапацкай.

### Пачуем-пабачым

Наколькі паспяхова Анісім і Канапацкая будуць дзейнічаць у ПП, мы пабачым пасля пачатку яе працы. Відавочна, што і тая, і другая маюць патэнцыял, каб калі не «паставіць парламент на вушы», дык хаця б разварушыць пэўную частку дэпутатаў. Але і гэта можа не атрымацца, калі «загадам зверху» астатнім народным абраннікам проста забароняць стасавацца з «апазіцыянеркамі».

І такое можа быць. У нашай краіне, як паказалі вынікі выбараў, магчымае нават неверагоднае.




**Палату прадстаўнікоў у міжнародных арганізацыях па-ранейшаму будуць лічыць нелегітымнай**

# Бацькаў дар

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

Цяпер здзіўляе, як ён усё ведаў, памятаў і, галоўнае, знаходзіў энергію ды жаданне спыніцца пасля працоўнага дня і распавесці гэта нам, яшчэ зусім дзецям. Перад сном бацька таксама апавядаў нам свае захапляльныя «гісторыі» — ад старажытнай Грэцыі да новых часоў.

Пісьмовы стол, а пазней і кампутар на ім — яшчэ адзін неад'емны атрыбут вобраза бацькі. Ён заўжды пісаў шмат, як гісторык і як публіцыст. Менавіта ад бацькі мы навучыліся пазбягаць штампаў у пісьмовых творах, і не важна, была тое віншавальная паштоўка, артыкул ці дысертацыя. Гэта дапамагае нам і зараз — дачцэ, якая пайшла па шляху бацькі як гуманітар-прафесіянал, і сыну ў бізнес-кіраванні, дзе пісьмовае слова, хоць і карацейшае, але таксама адыгрывае вызначальную ролю ў камунікацыі з людзьмі.

Да старажытнага жанру ліста мы часта звярталіся і ў зносінах паміж сабой. У цяжкія для сям'і часы, калі трэба было прымаць лёсавызначальныя рашэнні, у нашых імэйлах з'яўляліся файлы-дадаткі пад назвай «Ліст». Апошні такі ліст мы напісалі бацьку, калі абмяркоўвалі магчымасць яго лекавання ў Сінгапуры ў чэрвені 2015 года. Тады ён напісаў у адказ: «Дзіўная рэч, але гэта старажытная форма зносін мае значна большую моц, чым усе іншыя сучасныя інструменты камунікацыі».

Яшчэ напачатку перабудовы, да таго, як з'явіліся магчымасці падарожнічаць па свеце, бацька стаў заахвочваць нас вывучаць замежныя мовы. Сам ён вельмі шкадаваў, што ў свой час не авалодаў як след нямецкай мовай, але вельмі добра разумеў, што


З нявестай Вольгай. 1969 г.

валоданне мовамі ў сучасным свеце з'яўляецца абсалютна неабходным навыкам, які не толькі пашырае межы, але дае свабоду. У сваіх інтэрнацыянальных кар'ерах, мы абодва вельмі ацанілі гэтую ягоную параду. А бацька жартаваў, што такім чынам вырасціў сабе двух перакладчыкаў.

У такіх зносінах — на роўных, поўных кахання, такта і ўзаемапавагі — бацькі сталі нашымі лепшымі сябрамі, партнёрамі ў справах і дарадцамі. У нас ніколі не было страха перад пакараннем ад бацькоў. Бацька вельмі па-майстэрску карыстаўся ironiяй, у першую чаргу над самім сабой. Таму, калі мы, як аўтамабіль на дарозе, крыху адхіляліся ад правільнага курса, бацьку было дастаткова ўсміхнуцца сваёй іранічнай усмешкай і нагадаць: «Здаецца, ты вырашыў, што Бога за бараду ўзяў. Зараз тая самая сітуацыя, калі твая амбіцыя перавышае амуніцыю. Трэба або першую знізіць, або другую ўзмацніць».

Самым вялікім нашым страхам было расчараваць бацькоў. Аднаго позірку з маўклівым дакорам, або гэтай іранічнай усмешкі з прыжмураным вокам, хапала, каб дзіцячы ці падлеткавы, а часам і дарослы, компас выправіўся і зноў лёг на сапраўдны курс.

Бацьку было сапраўды цікавым наша жыццё. Мы вельмі шмат размаўлялі і абмяркоўвалі тое, што нас хвалявала. Асабіста ці па скайпу бацька заўсёды мог даць нам параду і сам раіўся з намі. Ён умеў хутка прааналізаваць самыя няпростыя сітуацыі, дакладна іх зразумець, улічыць розныя фактары і прапанаваць алгарытм узважаных дзеянняў.

Гэтую сваю здольнасць ён не згубіў да апошніх хвілінаў жыцця, нягледзячы на хваробу і слабасць. Ужо ў Сінгапуры мы вечаровымі гадзінамі, як у нашым юнацтве, гутарылі пра складаныя прафесійныя пытанні, і бацькавы разважлівы падыход ды ягоная заўсёдная падтрымка дапамагалі годна пераадольваць любы крызіс.

Бацька не быў ідэальным. У яго былі свае слабасці і недахопы, пра якія ён ведаў і над якімі часам іранізаваў. Дзякуючы каханню, разуменню і падтрымцы нашай маці, бацька меў магчымасць займацца ў сваім жыцці тым, што любіў, і не быў абцяжараны побытавымі праблемамі. Натуральна, што ў бацькоў былі складаныя часы, але ў нашым доме ніколі не павышаліся галасы. Такт, павага, эрудаванасць і культура панавалі ў нашым сямейным сусвеце.

Тое святло, што прыцягвала да бацькі самых розных людзей і аб'ядноўвала вакол яго, запаўняла ўсё наша жыццё, ад нараджэння і да сёння. Мабыць таму гэты першы без яго год мы штодня адчувалі ягоную прысутнасць, у нашых думках, пачуццях і дзеяннях. Гэтае святло будзе з намі заўсёды.


Сям'я Аляксея разам з нявесткай Валянцінай на даху Опернага тэатра ў Осла, 2009 г.


Аляксей з дачкой Ірынай. Ганконг, 2013 г. Разам пішуць рэпартаж для «Новага Часу»


Аляксей з сынам Сяргеем. Ганконг, 2013 г. Сяргей рэдка трапляе ў сямейныя кадры, бо звычайна ён фатаграфуе. Любоў да фатаграфавання прывіў бацька

## «Каралеўская бібліятэка»

**Рэмарк і Хэмінгуэй** — гэтых двух пісьменнікаў бацька лічыў сімваламі свайго пакалення «шасцідзясятнікаў». Рэмарка ён асабліва любіў, а кнігу «Тры таварышы» лічыў за ідэал непарушнага сяброўства.

**Сент-Экзюперы** — акрамя ўласна твораў, за шклом нашай кніжнай паліцы стаяў фотапартрэт пісьменніка.

**Андрэй Платонаў** — рускі пісьменнік, чыя творчасць увайшла ў наш дом разам з эпохай галоснасці. У 1987 годзе бацька здабыў том «Повести и рассказы», і ўся сям'я літаральна праглынула кнігу падчас летніх вакацыяў. Пазней з'явіліся «Котлован» і «Чевенгур». Бацька часта цытаваў гэтага аўтара.

**Джордж Оруэл** — таксама адкрыццё галоснасці. Раман «1984» падвёў фундаментальную базу пад бацькаў натуральны супраціў таталітарызму. Ад Оруэла бацька запазычыў прынцыпы «новамовы» і прыдумаў тэрмін «недарослацць» для азначэння некаторых падлеткавых паводзінаў сына.

**Ф. Ніцшэ, З. Фрэйд, Э. Фром, А. Камю, Ж.П. Сартр**

«Змярканне багоў» — пасля прачытання гэтага зборніка бацька з ironіяй ставіўся да жарсцяў вакол чарговага еўрапейскага крызісу і казаў: «Як заўсёды, чуткі пра змярканне Еўропы значна перабольшаныя».

**Эрнест Рэнан,** «Жыццё Ісуса. Апосталы» (Ernest Renan, «Vie de Jésus», «Les Apôtres») — бацька да канца жыцця застаўся атэістам, але праз гэтую кнігу прыняў галоўную ідэю хрысціянства: «Бог ёсць любоў». Да гэтай кнігі, а таксама «Аповесцяў Евангелістаў» польскага аўтара Зянона Касідоўскага (Zenon Kosidowski, «Opowieści ewangelistów») бацька часта вяртаўся і цытаваў. Апошнюю ён нават прывёз з сабой у Сінгапур.

**Андрэ Мальро,** «Люстэрка лімба» — гэтую кнігу мастацкай публіцыстыкі французскага пісьменніка, культуролага, удзельніка Супраціву і палітыка набыў сын і вельмі зацікавіўся, а потым яе ўзяў пачытаць бацька. Тады, на пачатку свайго палітычнага перыяду, яна стала для бацькі своеасаблівым падручнікам па палітыцы і грамадазнаўстве. Кніга літаральна зачытаная, са шматлікімі падкрэсліваннямі і нататкамі. Заўважым, што Андрэ Мальро быў перакананым правым палітыкам, а Аляксей — прынцыповым сацыял-дэмакратам.

**Ле Гоф,** «Цывілізацыя сярэднявечнага Захаду» — адна з першых кніг заходніх гісторыкаў, якая, па словах бацькі, упусціла ў айчынную гістарычную навуку «паветра, вольнае ад марксізму». З цягам часу ў хатняй бібліятэцы сфарміравалася асобная паліца з кніг заходніх гісторыкаў усіх асноўных гістарычных школ і кірункаў.

**Харукі Муракамі** — гэты японскі пісьменнік неяк асабліва супаў з бацькавай душой. Ён прачытаў усе яго раманы і апавяданні, якія выйшлі ў перакладзе.

Беларускія пісьменнікі заўсёды займалі ганаровае месца ў хатняй бібліятэцы і рэгулярна перасылаліся за мяжу сыну. У Сінгапуры бацька перачытаў шмат каго з іх у апошні раз. Адну з самых вялікіх секцыяў складалі кнігі па беларускай гісторыі, ад факсімільных выданняў 1920-х гадоў і самадрукаў сярэдзіны 1980-х да самых найноўшых даследаванняў. Вось усяго некалькі прыкладаў:

**Уладзімір Караткевіч** — яшчэ за савецкім часам тры кнігі малочнага колеру вабілі дзяцей «Альшанскім замкам», «Сівой легендай» і вершамі.

**Васіль Быкаў** — амаль усе выданні, у тым ліку апошні поўны збор твораў, які выдаваўся Саюзам беларускіх пісьменнікаў.

**Уладзімір Някляеў** — зборнікі паэзіі і кнігі прозы. «Аўтамат з газіроўкай» быў прэзентаваны сыну падчас сямейнай сустрэчы ў Парыжы з урачыстай прамовай: «Пасля гэтай кнігі ніхто не зможа сказаць, што ў Беларусі няма гарадскога раману».

**Рыгор Барадулін** — бацька вельмі сумаваў і быў удзячны лёсу, што «Новы Час» паспеў з апошняй размовай і надрукаваў інтэрв'ю «дзядзькі Рыгора», узятае за тыдзень да яго смерці.

**Уладзімір Арлоў** — з яго зборніка «Дзень, калі ўпала страла», выдадзенага яшчэ ў 1988 годзе, дзеці дазнаваліся пра раней не вядомыя старонкі гісторыі сваёй радзімы. «Краіна Беларусь» паляцела падарункам сыну ў ЗША, дзе заняла ганаровае месца ў працоўным кабінеце і служыла наглядным дапаможнікам па гісторыі Беларусі для амерыканскіх калег.

**Віктар Марціновіч** — пасля прачытання «Параноі» Аляксей Кароль сказаў дачцэ: «У вашага пакалення з'явіўся свой яскравы пісьменнік». Ад забароненай «Параноі» літаральна зносіла дах: дачка Ірына прывезла пазычаны ў кагосьці асобнік брату ў Амерыку, які той мусіў прачытаць за 48 гадзін сумеснага ўікэнду, каб кніга вярнулася на радзіму ў час. «Мову» ўсе мы праглынулі на адным подыху: азіяцкая старонка ў жыцці нашай сям'і толькі ўзмацніла эфект.

**Алесь Пашкевіч** — ягоны «Рух», адзін з сігнальных асобнікаў якога аўтар падпісаў і падарыў Аляксею Каралю, таксама здзейсніў падарожжа ў Сінгапур і вярнуўся ў Беларусь разам з бацькам. Гэтая кніга дапамагла маці перажыць доўгі і сумны шлях дадому ў верасні 2015 года.

# Перамога над антыфашызмам

## Чаму маладых антыфашыстаў кляймяць «экстрэмістамі» ў краіне, якая «перамагла фашызм»

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Нядаўна быў вынесены прысуд гродзенскаму антыфашысту Максіму Ягнешку. Суд Ленінскага раёна Гродна прызнаў яго вінаватым у «пагрозе забойствам», «рабаўніцтве» і «хуліганстве». Нібыта ў адной з вулічных боек Максім прыстаўляў нож да горла аднаго з пацярпелых, а ў другой — адабраў у некага шапку. Сам асуджаны сцвярджае, што наогул не рабіў дзеянняў, якія яму ставяцца ў віну.**




**Паводзіны следчых органаў, пракуратуры, суда і пенітэнцыярнай сістэмы карэлююць з далейшым узмацненнем аўтарытарнага рэжыму, якое мы назіраем у Беларусі, нягледзячы на гульні з Еўрасаюзам, і нават ЗША**

Так, мела месца бойка. Але ў яе выніку Максім сам аказаўся збітым і патрапіў у бальніцу. Прычынай для канфлікту былі погляды маладых людзей: у адной групы — неанацысцкія, у другой — антыфашысцкія. Пасля гэтай бойкі міліцыянты настойліва прапаноўвалі Максіму Ягнешку напісаць заяву аб факце збіцця, ад чаго ён адмовіўся. І раптам з пацярпелага ператварыўся ў абвінавачанага.

Увесь працэс ад пачатку быў кафкіянскім, а следства дыктавала «пацярпелым», што і як казаць ці пісаць. Максім Ягнешка плануе абскарджваць прысуд. Але гэтая гісторыя — толькі адна з доўгага шэрагу.

### Тэндэнцыя

Яшчэ ў студзені 2015 года Максіму і яшчэ аднаму гродзенскаму антыфашысту далі штрафы за захоўванне налепак «Антыфашыстоўскі супраціў» (артыкул 17.11 КаАП Беларусі «Выраб, распаўсюджванне і (або) захоўванне экстрэмісцкіх матэрыялаў»). Тады ў межах адміністрацыйнай справы па расклейванні такіх налепак прайшлі ператрусы прынамсі ў дзевяці гродзенскіх маладзёнаў.

Вельмі паказальная для характарыстыкі ходу «барацьбы з арганізаванай злачыннасцю» гісторыя здарылася ў Маларыце. У маі бягучага года 16-гадовы Андрэй Джамбурыеў ішоў па вуліцы, пачуў ад аднагодкаў абразы на свой адрас і ў адказ ударыў іх некалькі разоў. Яго справу разглядзелі як адміністрацыйную і вынеслі яму папярэджанне. Але пасля таго, як пра справу даведаўся брэсцкі аддзел «па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю», папярэджанне было адменена, заведзена крымінальная справа. Андрэя ўзялі пад варту. Цяпер ужо 17-гадовага юнака лічаць «небяспечным экстрэмістам», паколькі ён прытрымліваецца анархісцкіх поглядаў.

> **Антыфашыстаў можна знайсці і ў іншых моладзевых субкультурах. На прадстаўнікоў гэтых субкультур і сталі паляваць сілавікі. Некаторыя відныя фігуры сярод фанатаў нават з'ехалі з краіны, каб не трапіць у турму**



**Максім Ягнешка.** Фота Радыё Рацыя

Варта адзначыць, што і справу Максіма Ягнешкі, і ўсе іншыя справы антыфашыстаў ініцыявалі аддзелы ці ўпраўленні па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.

За апошні год былі агучаныя прынамсі тры справы антыфашыстаў, па якіх або былі вынесеныя прысуды, або адбываліся арышты. Яшчэ нейкая колькасць справаў можа заставацца невядомай публічна. Пэўная колькасць справаў не дайшла да стадыі арышту падазраваных. Так, вядома, што за апошнія месяцы прайшлі серыі ператрусаў у антыфашыстаў у Гродна і Брэсце.

У верасні 2015 года антыфашыст з Івацэвічаў Улад Лянько быў асуджаны за бойку з неафашыстамі на 6 гадоў па артыкулах 339.2 (хуліганства, здзейсненае групай асоб) і 147.2 (прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў).

У кастрычніку мінулага года Раман Богдан з Брэста быў асуджаны на 8 гадоў па артыкулах 339.3 (злоснае хуліганства, здзейсненае групай асоб) і 147.2. Пры пераглядзе справы па касацыі справа была перакваліфікаваная на артыкул 339.2, а тэрмін пакарання зменшаны да 6 гадоў. Раней за тую самую бойку быў асуджаны антыфашыст Дзмітрый Званько.

Ужо некалькі месяцаў цягнецца справа фанатаў футбольнага клубу «Партызан». Ілля Валавік, Вадзім Бойка, Зміцер Цехановіч і Філіп Іваноў абвінавачваюцца ў асабліва злосным хуліганстве (артыкул 339.3). Нагадаем, фанаты «Партызана» (раней «МТЗ-РІПА») маюць рэпутацыю антыфашыстаў.

### Экстрэмісты нумар адзін

Як ужо было заўважана, ва ўсіх выпадках гэтымі справамі займаюцца «барацьбіты з арганізаванай злачыннасцю». Яны ж імкнуцца, каб ва ўсіх выпадках былі вынесены празмерна суровыя прысуды. Але калі раней абвінавачанні былі заснаваныя на рэальных падзеях, то ў апошні час следчыя праяўляюць зусім непатрэбную тут фантазію.

На ўжо асуджаных антыфашыстаў (і, дзеля справядлівасці трэба дадаць, фашыстаў) у месцах пазбаўлення волі вешаюць цэтлік «экстрэміст». Гэта нядаўна прыдуманая новая форма прафілактычнага ўліку, на які ставяць зняволеных. Самыя распаўсюджаныя формы ўліку — схільны да ўцёкаў, да суіцыду, захопу закладнікаў і г.д. Пры гэтым для пастаноўкі на такі ўлік неабходна, каб зняволены сваімі дзеяннямі або паводзінамі даў да гэтага падставы. Новы прафілактычны ўлік «схільны да экстрэмізму», па словах саміх зняволеных, даецца не за паводзіны ў вязніцы, а за папярэднія дзеянні на волі — чытай, палітычную ці сацыяльную актыўнасць.

Улічваючы тое, што на такі ўлік пастаўлены таксама палітвязень Міхаіл Жамчужны, зняволеных анархістаў ды антыфашыстаў можна таксама лічаць палітычнымі вязнямі.

Варта дадаць, што гэты ўлік азначае, што вязень вымушаны спаць бліжэй за ўсіх ля дзвярэй, 5 разоў на дзень адзначацца ў начальніка атрада, на пастраенні быць у першым шэрагу і г.д. І калі звычайны прафулік пераглядаюць кожныя паўгода, то схільнасць да экстрэмізму, выглядае, застаецца да канца тэрміну.

### Майданаў не будзе

Узнікае пытанне: навошта ўсё гэта робіцца?

Па-першае, такія паводзіны следчых органаў, пракуратуры, суда і пенітэнцыярнай сістэмы карэлююць з далейшым узмацненнем аўтарытарнага рэжыму, якое мы можам назіраць у Беларусі, нягледзячы на гульні з Еўрасаюзам, і нават ЗША. Як прыклад для параўнання можна прывесці хаця б палітыку «zero tolerance» у дачыненні да спажыўцоў наркотыкаў, у тым ліку канапель. На ўзроўні ААН прызнана, што палітыка крыміналізацыі спажыўцоў не прыводзіць да станоўчых вынікаў, але нягледзячы на гэта з мінулага года ў Беларусі была павялічаная цяжкасць пакарання па ўсіх «наркатычных» артыкулах Крымінальнага кодэкса.




Па-другое, не сакрэт, што беларускія ўлады былі вельмі напалоханыя як Майданам, так і вайной ва Украіне. Заўважнасць на Майдане «Правага сектару» і, больш шырока, ультраправых рознага кшталту, а таксама футбольных фанатаў, выклікала жаданне беларускіх сілавікоў прэвентыўна расціснуць усё падобнае ў Беларусі. Гэтае жаданне толькі ўзмацнілася з пачаткам вайны на ўсходзе Украіны, у якой з абодвух бакоў удзельнічаюць усё тыя ж ультраправыя, некаторыя групоўкі футбольных фанатаў, а таксама людзі, якія па тых ці іншых прычынах спрабуюць прадставіць сябе як «антыфашысты».

У Беларусі, як і ў цэлым у Еўропе, групоўкі футбольных фанатаў часта спачуваюць тым ці іншым ідэалогіям. На жаль, часцей ультраправым, але часам іх удзельнікі падзяляюць і антыфашысцкія погляды. Антыфашыстаў можна таксама знайсці і ў іншых моладзевых субкультурах, напрыклад, сярод панкаў. Такім чынам, на прадстаўнікоў гэтых субкультур і сталі паляваць сілавікі. Па чутках, некаторыя відныя фігуры сярод фанатаў за апошнія пару гадоў нават з'ехалі з краіны, каб не трапіць у турму.

Нарэшце, заўважна, што органам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю папросту няма чым займацца. Гэта можна было бачыць па такіх фактах, як беспадстаўна грубае затрыманне групы футбалістаў, якіх падазравалі ў арганізацыі «дамоўных матчаў», і моцнае збіццё пры затрыманні аднаго з іх. Разгалінаваны апарат створаны, і таму ён не можа не выяўляць злачынстваў. Калі злачынстваў няма, іх трэба прыдумаць — не скарачаць жа штаты! Можна чакаць, што ў далейшым у Беларусі за аддзеламі па «барацьбе з арганізаванай злачыннасцю» замацуецца благая слава расійскіх цэнтраў «Э», а грамадскасці давядзецца праводзіць кампанію накшталт расійскай «Экстремизма нет».

Беларусь Эканамічная
Выпуск №4 (верасень)
САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

# Экалагічнае будаўніцтва

Яўген МЕРКІС

**Ці магчыма пры будаўніцтве ўласнага жылля зрабіць яго цалкам экалагічным? Якія стэрэатыпы і тыповыя памылкі замінаюць гэтаму, і ці прынясе экабудаўніцтва сапраўдную карысць прыродзе і гаманцу ўладальнікаў? Адказы на гэтыя пытанні нам дапамог знайсці дырэктар гомельскай кампаніі «ТэрмаДэкор» Вадзім Мартыненка.**

Каб ацаніць экалагічнасць будаўнічых матэрыялаў ці будучага дома, неабходна адразу вылучыць шэраг крытэраў.

Так, трэба адрозніваць экалагічнасць на ўзроўні вытворчасці саміх матэрыялаў, экалагічнасць дома як сімбіёз розных будаўнічых і аздобных матэрыялаў і экалагічнасць дома з пункту гледжання яго далейшага абслугоўвання і ацяплення. Не варта забывацца і на магчымасць экалагічнай утылізацыі самога дома ці яго элементаў у будучыні.

Напрыклад, вытворчасць экалагічнай мінеральнай ваты вельмі неэкалагічная. Пры яе вырабе выкарыстоўваецца шмат фармальдэгіду і спальваецца багата газу. Але ж потым фармальдэгід становіцца інертным, і таму пазней некаторыя людзі б'юць сябе ў грудзі ды заяўляюць аб тым, што ён экалагічны. Падобныя сітуацыі ўскладняюць вылучэнне сапраўды экалагічных будаўнічых матэрыялаў і тэхналогій.

## Экалагічнасць вытворчасці матэрыялаў

Сёння многія вытворцы дэкларуюць сваю экалагічнасць, бо гэта ўсеагульны сучасны трэнд, і з пункту гледжання маркетынгу ім важна пра гэта заяўляць. Паступова ўсё больш людзей хоча жыць у бяспечных для свайго здароўя і навакольнага асяроддзя дамах, і рынак мусіць гэта ўлічваць.

Але ж сярод розных матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца пры будаўніцтве, хапае дзіўных прыкладаў. Акрамя мінеральнай ваты можна адразу ж прыгадаць выкарыстанне лінолеуму. Яго вытворчасць вельмі неэкалагічная, але пры належным абветрыванні і выветрыванні з яго ўсіх шкодных рэчываў на працягу некалькіх месяцаў ён з часам становіцца вельмі інертным матэрыялам у гэтым плане і досыць экалагічным у выніку. Але ж нашы вытворцы лінолеуму і крамы не робяць гэтую працэдуру, таму пасля набыцця яго шмат хто яшчэ месяцамі працягвае па ўласным няведанні атручваць сваё жыццё дома.

Экалагічным можна лічыць той жа лён, але тады, калі ён ідзе як адкіды ад нейкай асноўнай вытворчасці. На яго вырошчванне і апрацоўку выключна для будаўнічых мэтаў спатрэбіцца шмат рэсурсаў, што адаб'ецца на яго кошце і экалогіі.

Дастаткова экалагічным можна лічыць вытворчасць белых сілікатных блокаў. Падобная вытворчасць ёсць, да прыкладу, у Магілёве. З пункту гледжання менавіта ўсіх асноўных трох фактараў яго можна лічыць досыць экалагічным.

Для яго вырабу выкарыстоўваецца мясцовая сыравіна, і яе не даводзіцца везці з далёкіх краёў, ён не патрабуе пры вытворчасці вялікай колькасці энергіі, сама сыравіна досыць экалагічная — асноўныя мінеральныя кампаненты дастаюць наўпрост з зямлі, і ён нескладаны пры перавозцы і будаўніцтве. Самае ж цудоўнае ў ім — гэта тое, што пры атапліванні гэтыя блокі хутка разаграваюцца і доўга захоўваюць цяпло. Таму ў гэтым плане экалагічнасць блокі ПГС даказалі сваім выкарыстаннем за апошнія некалькі дзясяткаў гадоў!

Працяг на стар. 8 (2) »

# Экалагічнае будаўніцтва: міф ці рэальнасць

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 7 (1).



## Экалагічныя і ўмоўна экалагічныя матэрыялы

Апрыёры экалагічнай можна лічыць драўніну, вядома ж, калі яе не апрацоўвалі потым рознымі шкоднымі хімічнымі рэчывамі. З іншага боку, працэс вырошчвання дрэваў і іх апрацоўкі патрабуе шмат часу і рэсурсаў. Да таго ж пры масавым попыце натуральнага лесу на ўсіх можа і не хапіць.

Яшчэ адно правіла — чым менш матэрыял падвяргаўся апрацоўцы, тым лепш. Да такіх матэрыялаў адносіцца драўніна, блокі ПГС ды цэгла (хоць часам даводзіцца яе правяраць нават на радыяцыю). Экалагічнымі могуць быць як хаты з драўніны, так і з саломы ды гліны. Але апошні варыянт абяруць не ўсе, і, што галоўнае, для будаўніцтва з іх патрэбныя адмысловыя спецыялісты, якіх у нас пакуль не так шмат. Гэта павышае кошт іх паслуг, ускладняе працэс будаўніцтва і павялічвае яго працягласць.



## Аптымальная формула беларускага дома

Адна з самых аптымальных формул пры будаўніцтве новага дома выглядала б так:

1. Дом будуецца з выкарыстаннем каркаснай канструкцыі на металічным крапяжы.
2. У якасці ўцяпляльнікаў выкарыстоўваюцца экалагічныя матэрыялы — шклавата ці мінеральная вата. Пры гэтым шклавацe можна аддаць перавагу. Яе валокны трымаюцца самі за сябе і для іх стрымлівання разам не трэба злучных рэчываў, у адрозненне ад той жа мінеральнай ваты, створанай з плаўленага базальту. У яе валокны вельмі кароткія, і для стрымлівання іх разам выкарыстоўваецца шкодны фармальдэгід.
   Можна выкарыстоўваць і ўцяпляльнікі з ільняного валакна або перапрацаванай паперы.
3. Дом абшываецца драўлянымі панелямі звонку і знутры. Звонку можна яшчэ і пакрыць яго металам. У выніку абалонка дома атрымліваецца экалагічнай, умоўна недарагой і энергаэфектыўнай. З пункту гледжання гэтых паказнікаў такі дом — самы лепшы выбар.

Потым яго дастаткова трохі абаграваць, ён не будзе патрабаваць шмат энергіі на ацяпленне. А гэта — істотны фактар, улічваючы сусветны крызіс і высокія кошты на энерганосьбіты, таму яго варта ўлічваць пры будаўніцтве дома.

Дарэчы, такі дом і яго элементы потым яшчэ і вельмі ўдала ўтылізуюцца. На гэты фактар у нас усё яшчэ часта забываюцца, але ён істотны, калі вы хочаце не нашкодзіць сабе і прыродзе. Напрыклад, калі пры будаўніцтве закладваецца ў якасці ўцяпляльніка пенапалістэрол (які сам па сабе досыць спрэчны як матэрыял), то потым яго будзе складана ўтылізаваць.

## Пабудаваць мала, трэба сачыць

Замінаюць пры будаўніцтве і шматлікія памылковыя ўяўленні, якія ўсё яшчэ ёсць у галовах беларусаў.

Напрыклад, ільновалакно, якога, на жаль, не хопіць на ўсіх. Пры гэтым яго яшчэ важна правільна вырабіць. У выпадку парушэння тэхналогіі яго вырабу або эксплуатацыі, у ім можа назапашвацца залішняя вільгаць або завядуцца непатрэбныя жывыя «суседзі». Таму важна выбіраць правераных пастаўшчыкоў. У Беларусі ўжо ёсць некалькі фірмаў, якія займаюцца вырабам матаў з адыходаў лёну.

Варта ўлічыць, што амаль усе экалагічныя матэрыялы досыць патрабавальныя да эксплуатацыі. Калі ў нас бяруць драўляны дом і потым абшываюць яго сайдынгам ці ўцяпляюць пенапалістэролам — такія дамы хутка згніваюць, паколькі драўніна перастае «дыхаць».

## «Калі сцяну дома можна прастрэліць з аўтамата, гэта — дрэнны дом»

Пры будаўніцтве часта даводзіцца сутыкацца з абсалютна не стандартнымі поглядамі на тое, з чаго будаваць і як мае выглядаць будучы дом.

Адзін з самых распаўсюджаных стэрэатыпаў — меркаванне, што калі ў хаце не схавацца ад танка, а яго сцены можна прастрэліць з аўтамата Калашнікава, то гэта — дрэнны дом. Пры гэтым апошнія 70 гадоў наша краіна ніякай вайны не ведае, але людзі ўпарта працягваюць узводзіць свае дамы з бетону ці цэглы вялікай таўшчыні. Гэта не толькі неэкалагічна, але і проста не мае сэнсу.

Можна збудаваць той жа каркасны дом аптымальнай таўшчыні, запоўніць яго экалагічным уцяпляльнікам і зрабіць недарагое і экалагічнае аздабленне. Пры гэтым такое жыллё будзе ўдала пераносіць любыя ўмовы надвор'я, трымаць цеплыню і вытрымае любыя нагрузкі. Але галоўным крытэрам пры будаўніцтве дома ўсё роўна застаецца аўтамат Калашнікава... у галовах нашых суграмадзян.

Крызіс таксама адлюстроўваецца на памкненні людзей зэканоміць на чым заўгодна, у тым ліку экалогіі і нават уласным здароўі. Да прыкладу многія выкарыстоўваюць шпалы, апрацаваныя гудронам. Гэта досыць танны матэрыял, таму людзі працягваюць узводзіць з яго не толькі лазні, але альтанкі і нават свае хаты. Потым адбываецца страшная дыфузія араматычных вуглевадародаў, і людзі не могуць у той лазні не тое што вымыцца, але нават і дыхаць. Але затое эканомія...

## Якія матэрыялы неэкалагічныя

1. Уся мэбля з клеенага пілавіння — ДВП, ламінаванае ці не ламінаванае ДСП.
   Канешне, мэбля ў першую чаргу адносіцца да начыння дома, але ж нельга пабудаваць экалагічны дом, абставіць яго мэбляй з ДСП. І сказаць: «Затое я шчыры перад самім сабой і зрабіў выбар на карысць экалогіі».
2. У экалагічным доме не павінна быць матэрыялаў на бітумнай аснове — усяго, што створана з выкарыстаннем прадуктаў нафтаперапрацоўкі.
   Людзі ж могуць узяць драўляны паркет і пакласці яго на бітумны клей, могуць зрабіць экалагічны дом, а гідраізаляцыю падмурка зрабіць бітумнай субстанцыяй і потым удыхаць яе гадамі. Яшчэ адзін шкодны варыянт — заліць сцежкі і пад'езды да дома асфальтам ці пакласці на дах фінскую дахоўку.

## А як у іх?

Еўрапейцы пайшлі ў вырашэнні шматлікіх праблем у будаўнічай сферы і пытанняў экалогіі па вельмі разумным шляху — яны ўсталявалі надзвычай жорсткія нормы па выяўленні ўсіх шкодных рэчываў і забяспечылі сістэму кантролю за гэтым. Плюс улічылі некаторыя канструктыўныя рашэнні ў будаўніцтве.

Напрыклад, у Еўропе, асабліва ў краінах Скандынавіі, а таксама Канадзе і ЗША, часта ўжываецца каркасны спосаб узвядзення дамоў, дзе ў якасці ўцяпляльніка выкарыстоўваецца танны палістэрол (белы пенапласт).

Пры гэтым сістэма вентыляцыі ў такіх будынках вельмі рацыянальна прадумана, і свежае паветра нагнятаецца ў іх з вуліцы. У доме такім чынам ствараецца невялічкі залішні ціск, які людзі не адчуваюць, але менавіта дзякуючы гэтаму з дому выціскаюцца ўсе магчымыя вывяржэнні газаў, фармальдэгідаў і іншых шкодных рэчываў. У выніку атрымліваецца, што, нягледзячы на выкарыстанне не самага экалагічнага будматэрыялу, яго шкода кампенсуецца прадуманасцю тэхналогій узвядзення і эксплуатацыі дамоў, у якіх пазней вырастаюць абсалютна нармальныя і здаровыя дзеці.

## Рэгуляванне зарэгуляванага

У нашай краіне, часцей за ўсё ў прыватным будаўніцтве, пераважае так званы самабуд, калі пра цэнтралізаваныя і апрабаваныя практыкай тэхналогіі думаюць не ўсе.

Пры гэтым, калі спытаць у народа, ці трэба ўводзіць новыя будаўнічыя нормы, то ён скажа, што ў нас, наадварот, усё занадта зарэгулявана. Але ж нормы, якія сапраўды забяспечваюць надзейнасць канструкцый, іх бяспеку і доўгую эксплуатацыю, у нас дагэтуль ігнаруюцца. Экалагічнасць пры гэтым таксама застаецца на апошнім месцы.

Часам будаўнічыя нормы чыста намінальна спрабуюць спісаць у перадавых краін Еўропы, але робіцца ўсё гэта надзвычай не паслядоўна. Пры такім выпадку адсутнічае комплексны падыход, а менавіта ён можа даць сапраўдны вынік і прывесці да зменаў.

У апошнія гады многія органы сертыфікацыі ў Беларусі наогул успрымаюць гэты працэс як сваю вотчыну і магчымасць для вядзення паспяховага бізнесу. Тыя, хто сертыфікуюць, часта самі ствараюць сабе выгадныя нормы і правілы, каб трымаць усё пад кантролем і пры гэтым забяспечваць сабе далёка не беднае існаванне. Напэўна, калі б не было спажыўцоў і будаўнікоў, дык яны ўвогуле былі б шчаслівыя.

## Праца над памылкамі

Будаўнічая індустрыя ў Беларусі на дадзены момант забяспечвае тыя нашы патрэбы і выкарыстоўвае тыя магчымасці, якія склаліся ў нас на працягу апошніх дзесяцігоддзяў, таму тут складана зрабіць адразу рывок наперад. Занадта вялікі працэнт дзяржаўнага будаўніцтва, разнастайныя перашкоды і нормы пры ўзвядзенні прыватнага жылля замінаюць прыходу новых тэхналогій і методык.

Канешне, яшчэ 15 гадоў таму мы нават асабліва не ведалі, што такое гіпсакардон ці сухія будаўнічыя сумесі — гэты цуд, калі адкрываеш упакоўку, даліваеш туды вады — і атрымліваеш адразу гатовую шпаклёўку, сцяжку для падлогі або іншыя неабходныя сумесі. Але асобныя поспехі і навінкі не здольныя радыкальна змяніць стан нашай будаўнічай сферы.

Адзіны фактар, які можа змяніць сітуацыю, — прыватны бізнес. Прыватнік заўсёды различвае эфектыўнасць, падладжваецца пад патрабаванні кліента і максімальна якасна будзе ўсё будаваць, калі захоча застацца на рынку. Таму тут варта заняцца спрашчэннем вядзення бізнесу, увядзеннем жорсткіх і аднолькавых нормаў для ўсіх, і зрабіць гэтую сферу максімальна празрыстай для спажыўцоў і замоўцаў.

Але для ўсяго гэтага нам варта спачатку хаця б стаць на гэты шлях пераменаў, а потым яшчэ прайсці праз часы асобных недахопаў і праблем у сістэме ў цэлым. Можна адзначыць, што прыватныя будаўнічыя кампаніі існуюць і цяпер, але сярод іх яшчэ шмат непрафесіяналаў, і доля гэтага сектара яшчэ малая.

Нам давядзецца яшчэ наладзіць і сістэму маніторынгу асобных будаўнічых тэхналогій, у тым ліку і з аглядкай на іх экалагічнасць.

Адной з самых паспяховых практык можна назваць выкарыстанне так званага кодэкса ўсталяванай практыкі, калі пры выкарыстанні нейкай новай тэхналогіі або будаўнічага метаду пасля некалькіх гадоў яго выкарыстання занатоўваюцца ўсе асноўныя патрабаванні і памылкі. Такіх дакументаў па сістэме ўцяплення фасадаў, гідраізаляцыі, будаўніцтве з выкарыстаннем тых ці іншых экалагічных матэрыялаў у нас усё яшчэ няма. Але ж толькі праз практыку, толькі праз маніторынг і працу над памылкамі можна намацаць тую ці іншую тэхналогію, бо размяшчэнне нейкага артыкула на сайце пра новыя падыходы ў будаўніцтве — гэта толькі 10–15 адсоткаў сапраўднай працы.

Але не робіць памылак толькі той, хто нічога не робіць, таму нам варта пачаць думаць пра будучыню нашага краю і рабіць нешта ў будаўнічай сферы. Тады нашы дамы не будуць горшымі за дамы нашых больш развітых суседзяў.

# Экадамы:
## варыянты для Беларусі

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Сёння ва ўсім свеце вельмі распаўсюджана паняцце «зялёнае будаўніцтва» (яно ж «экалагічнае будаўніцтва», «экабудаўніцтва») — узвядзенне і эксплуатацыя будынкаў, уздзеянне якіх на навакольнае асяроддзе мінімальнае.**



Мэта такога будаўніцтва — зніжэнне спажывання энергетычных і матэрыяльных рэсурсаў на працягу ўсяго жыццёвага цыклу будынка: ад выбару ўчастку і праектавання да будаўніцтва, эксплуатацыі, рамонту і зносу. Іншая мэта зялёнага будаўніцтва — захаванне або падвышэнне якасці будынкаў і камфорту іх унутранага асяроддзя.

Хоць тэхналогіі ўзвядзення зялёных будынкаў увесь час удасканальваюцца, асноўнай мэтай дадзенай ідэі застаецца скарачэнне агульнага ўплыву забудовы на навакольнае асяроддзе і чалавечае здароўе.

Блізкі «сваяк» «экабудаўніцтва» — «натуральнае будаўніцтва», сутнасць якога — у выкарыстанні натуральных мясцовых матэрыялаў. Але гэта ўсё ў ідэальным свеце. А як яно выглядае ў Беларусі?

Выстава «Будпрагрэс–2016», якая прайшла нядаўна ў Мінску, пакінула ў мяне супярэчлівае ўражанне. З аднаго боку, на ёй было прадстаўлена нямала «інавацыйнай» прадукцыі з прыстаўкамі «эка» «бія» або «зялёная». З іншага боку, пры бліжэйшым знаёмстве аказвалася, што гэта, у лепшым выпадку, — даўно вядомыя тэхналогіі будаўніцтва, а ў горшым — проста маркетынгавыя выкруты.

Да першых можна аднесці шматлікія фірмы, якія прапануюць на беларускім рынку драўляныя дамы і зрубы па стандартных праектах, а таксама так званыя «каркасныя дамы» і дамы з клеенага бруса.

Да другіх жа адносяцца прадаўцы ўсяго запар — ад ліўневых сцёкаў і водаадводаў да ўбудаваных пыласосаў і сістэм вентыляцыі. Па сутнасці, на выставе толькі адна кампанія прапанsocaвала на самай справе на 100% экатэхналогію для прыватнага жылля, яна прадае сонечныя калектары ўласнай распрацоўкі.

Між тым, за апошнія паўстагоддзя ў свеце распрацавана мноства тэхналогій экалагічнага будаўніцтва жылля. Або, правільней казаць, будаўніцтва жылля, якое «прыязна ставіцца» да здароўя чалавека і не шкодзіць навакольнаму асяроддзю.

Не ўсе прывабныя тэхналогіі падыходзяць для Беларусі — найчасцей з-за нашага клімату, альбо таму, што патрабуюць зусім ужо экзатычных будматэрыялаў. Але хапае тэхналогій, якія дазваляюць будаваць экадамы ў беларускіх умовах, упісваючы будаўніцтва жылля ў вельмі сціплы бюджэт.

**Не выключана, што ва ўмовах росту кошту энергарэсурсаў беларусы будуць задумвацца пра цёплыя і экалагічныя дамы з саломы**

Дарэчы, пра бюджэт. Сёння на другасным рынку сярэдні кошт квадратнага метра катэджа пад Мінскам складае каля $700. Самыя танныя прапановы — дамы, што знаходзяцца ў 30–50 кіламетрах ад Мінска, там кошт квадратнага метра складае прыкладна $350. Гэта на другасным рынку.

А, напрыклад, кошт будаўніцтва цаглянага катэджа (без інжынерных камунікацый) — каля $150–200 за квадратны метр. Гэта толькі падмурак, сцены і дах. Калі гаворка ідзе пра дом, што выкананы пад ключ, — кошт будзе ўжо каля $400 за метр.

Выкарыстанне мясцовых і танных экаматэрыялаў (гліна, салома, драўняная дранка, палены, трыснёг) дазваляе значна скарацiць сабекошт будаўніцтва — пры захаванні тых жа спажывецкіх якасцяў. Да таго ж эканоміць можна і на працоўнай сіле: шмат якія тэхналогія экабудаўніцтва не патрабуюць спецыяльных навыкаў ці прыстасаванняў.

У выніку сабекошт квадратнага метра экадома — ад $50–100 (варыянт «голыя сцены») да $200–300 (з камунікацыямі і аздабленнем).

Самы вядомы і ўжо ніядрэнна адпрацаваны на практыцы варыянт — выкарыстанне ўякасці будаўнічага матэрыялу саломы. Сельгаспрадпрыемствы аддадуць яе па вельмі нізкіх коштах. На дом у сярэднім спатрэбіцца каля 10 тон саломы.

Сама ідэя саламяных (саманных) дамоў старая як свет — будаўнічыя блокі з сумесі гліны і саломы навучыліся ляпіць задоўга да Нараджэння Хрыстова. З часам тэхналогія ўдасканальвалася, але сутнасць яе засталася ранейшай.

У Беларусі ідэя дамоў з саломы звязаная з імем навукоўца-эколага Яўгена Шырокава, які пачаў яшчэ ў 90-х гадах будаваць таннае, экалагічнае і аўтаномнае жыллё з саломы, дрэва і гліны. Пры будаўніцтве аднаго з першых такіх дамоў у яго атрымалася ўкласціся ў $25.000. Пры таўшчыні саламяных сцен больш 50 сантыметраў удзельныя выдаткі на ацяпленне ў ім склалі не больш за 40 кВтг/м² у год (што ў некалькі разоў ніжэй, чым у цагляным доме).

Ёсць дзве асноўныя тэхналогіі будаўніцтва саламяных дамоў — бескаркасная і каркасная. Бескаркасная тэхналогія прадугледжвае зборку дома з блокаў саломы па прынцыпе цаглянага мура. Галоўная перавага гэтага метаду — вельмі нізкі кошт, бо не трэба марнавацца на драўляны каркас. Але пры будаўніцтве па такой тэхналогіі прыйдзецца вырашаць праблемы аконных перамычак, перакрыццяў, кроквеннай сістэмы.

Таму ў Беларусі распаўсюджванне атрымала каркасная тэхналогія: збіраецца драўляны каркас, у яго шчыльна набіваюцца саламяныя блокі (прастакутныя цюкі), і ўсё гэта атынкоўваецца глінай у некалькі пластоў. Такія дамы звычайна будуюць самастойна. Сабекошт такога дома пад ключ вагаецца ад $100 да $300 за квадратны метр.

Акрамя таго, апошнім часам у Беларусь з Літвы прыйшла тэхналогія будаўніцтва з саламяных панэляў. Яна пакуль больш дарагая, але і больш простая. Сабекошт дома з такіх панэляў «пад ключ» складае прыкладна $500 за квадратны метр. Замест літоўскіх панэляў можна выкарыстаць беларускі экакуб, будаўніцтва з якога абыдзецца дзесьці на $100–150 танней.

У адрозненні ад Еўропы, у Беларусі ідэі «саламянага» будаўніцтва не атрымалі належнага прызнання. Хаця не выключана, што ва ўмовах росту кошту энергарэсурсаў усё больш беларусаў будзе задумвацца пра вельмі цёплыя і экалагічныя дамы з саломы.

Меней вядомыя (пакуль), аднак даволі перспектыўныя тэхналогіі будаўніцтва прыватных дамоў з гліны з рознага кшталту дадаткамі цэлюлозных матэрыялаў — ад той жа саломы да драўніны. Тут можна прыгадаць праект «Глінабіт» кампаніі «GlinKo». Або яго разнавіднасць — дамы з гліны, змяшанай з дранкай. У Беларусі такое будаўніцтва адпрацоўвалася ў мястэчку Лельчыцы, дзе экадом з выкарыстаннем мясцовых прыродных будаўнічых матэрыялаў (гліны і дрэва) быў пабудаваны мясцовым «ПМК-103» з удзелам адмыслоўцаў кампаній «Стройэффективность» (Гомель) і «GlinKo» (Кіеў).

Паводле дадзеных аўтараў праекту, пры такім будаўніцтве энергавыдаткі на само будаўніцтва зніжаюцца прыкладна ў 150 разоў, энергавыдаткі пры ацяпленні — у 4–5 разоў, кошт 1 квадратнага метра — у 3–4 разы — у параўнанні з аналагічным па плошчы домам з цэглы. І гэта ўсё пры даўгавечнасці і высокіх спажывецкіх якасцях.

Іншая роднасная тэхналогія экабудаўніцтва, якая таксама падыходзіць для ўмоваў Беларусі, — тэхналогія будаўніцтва дома з дроў і гліны. У Канадзе такая тэхналогія завецца Cordwood, ва Украіне гліначурка, у Расіі — касцёр. Па сутнасці, гэта мур, у якім на гліняны раствор кладуцца драўняныя калодачкі або колатыя дровы. Ад іх даўжыні залежыць таўшчыня сцен. Гліна складае прыкладна 20% ад аб'ёму дроваў. Яна з'яўляецца асновай раствору, які ператварае просты касцёр у трывалую сцяну дроўнага дому. Каб гліна была цяплейшая і не рэпалася, яе змешваюць з дробна парэзанай саломай, дадаўшы яе ў аб'ёме 10–15% ад аб'ёму гліны.

Драўніна ўсярэдзіне глінянага раствору вельмі добра захоўваецца. У адной з вёсак амерыканскага штата Вісконсін дагэтуль захаваўся дом, пабудаваны па такой тэхналогіі польскімі эмігрантамі яшчэ ў 1880-х гадах. Зрэзы дрэў дагэтуль выглядаюць як свежыя. Такія дамы выдатна трымаюць цеплыню ў любы мароз, а ўлетку ў іх прахалодна, адсутнічаюць непажаданыя сутачныя тэмпературныя скокі.

Дарэчы, пра тэмпературу. У Беларусі прымаюцца ўсе больш жорсткія нарматыўныя патрабаванні па ўдзельным выдатку цеплавой энергіі на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне. Так, з 1993 года яны паніжаныя з 230 да 160 квтг/м² у год, з 2010 года — са 160 да 130 квтг/м². Дамы з альтэрнатыўных матэрыялаў — уключаючы гліна-драўляныя — дазваляюць рэальна скарацiць энергазатраты на ацяпленне да 90 квтг/м² на год для будынкаў у адзін-два паверхі. А калі такія дамы абсталяваць сістэмамі рэкуперацыі цеплыні і сістэмамі «разумнага» кіравання ацяпленнем, дык узровень цеплаcпажывання можа быць паніжаны да 15 квтг/м² на год.

Пры будаўніцтве такога дома таксама можна зэканоміць на падмурку. Глыбіню залажэння падмурка можна рабіць не больш за адзін метр, паколькі сцяна з дроваў важыць нашмат менш за цагляную, і да таго ж вельмі ўстойлівая да ападкаў грунта. Сярод эканамічных пераваг такога будаўніцтва таксама невысокі кошт у параўнанні з такімі папулярнымі тэхналогіямі, як цагляныя і каркасныя дамы, зруб. Кошт галоўным чынам залежыць ад уласных працавыдаткаў уладальніка і наяўнасці падыходзячага матэрыялу ў наваколлі. Уласнаручнае будаўніцтва зніжае выдаткі ў два разы, але працы будзе нямала.

Дарэчы, на міжнароднай канферэнцыі па будаўніцтве з выкарыстаннем тэхналогіі Cordwood — CoCoCo у 1994 годзе быў праведзены эксперымент па вымярэнні хуткасці распаўсюджвання агню ў сценах такога дома. Дык вось: дом, пабудаваны па тэхналогіі гліначурка, згарэў цалкам толькі праз тры дні пасля таго, як яго падпалілі.

Пералічаныя тэхналогія экабудаўніцтва прыдатныя для індывідуальнага жылля. Што тычыцца масавага шматпавярховага будаўніцтва, то тут да катэгорыі эка можна аднесці энергаэфектыўныя дамы.

# Энергаэфектыўныя дамы: пажаданае і сапраўднае

Антон ПЛАТАЎ

**Праблема энергаэфектыўнасці жылых дамоў — адна з самых балючых для Беларусі. Штозіму цяпло літаральна сыходзіць у паветра. Аднак энергаэфектыўныя дамы ў нас можна пералічыць па пальцах.**

## Саграваем паветра

Міністр архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Чорны ўзімку казаў, што ў Беларусі ў 2016 годзе плануецца пабудаваць эксперыментальныя энергаэфектыўныя дамы. «Вялікая ўвага надаецца цяпер энергаэфектыўным жылым дамам. Такое будаўніцтва — гэта перспектыва. Мы плануем пабудаваць тры эксперыментальныя энергаэфектыўныя дамы, яны былі закладзеныя ў канцы 2015-га, — сказаў міністр. — Да канца года мы прааналізуем вынік гэтай працы. Мы ўбачым кошт квадратнага метра такога жылля, эфектыўнасць ужывання тэхналогій. Пасля завяршэння эксперыменту будзем разглядаць поўны пераход на энергаэфектыўнае жыллё ў краіне».

Прачнуліся. Праблема нізкай энергаэфектыўнасці масавага жылля паўстала яшчэ ў БССР пачатку 1960-х гадоў, калі пачалося будаўніцтва «хрушчовак». У 90-х гадах у краіне пачало актыўна абмяркоўвацца выкарыстанне экалагічна чыстых і энергаэфектыўных матэрыялаў пры будаўніцтве новага жылля. Ужо тады эканамісты канстатавалі, што на выдаткі па эксплуатацыі жылля марнуецца не меней траціны імпартуемага паліва. Па словах навукоўцаў, на будаўніцтва квадратнага метра новага жылля выдаткоўвалася прыкладна 550–600 кг энергарэсурсаў.

Дамы, пабудаваныя з 1960-х па 1990-я гады, маюць удзельны паказчык энергаспажывання (ацяпленне плюс гарачае водазабеспячэнне) — 210–250 кілават-гадзін на квадратны метр. У сярэднім — 230 квтг/м2. Гэта для ўсіх серый. Амаль 95% жылых дамоў, пабудаваных пасля 1991-га, маюць узровень энергаспажывання звыш 160 квтг/м2 у год, што, тым не менш, значна вышэй, чым у еўрапейскіх краінах з аналагічным кліматам.

Вырашыць праблемы экалагічнасці і энергаэфектыўнасці адначасова магло б будаўніцтва энергапасіўных дамоў з экалагічна чыстых матэрыялаў. У Еўропе такія дамы маюць узровень цепласпажывання 15 квтг/м2 у год і меней.

## Толькі для прыватнікаў

У Беларусі энергапасіўныя дамы пачалі будаваць з 1998 года. Будуюцца яны па нямецкай тэхналогіі, у выніку атрымліваюцца дамы з каэфіцыентам тэрмічнага супраціву, роўным 10, са шкленнем на поўдзень, рэкуперацыяй цеплыні па вентыляцыі з ККД 70%. Пры будаўніцтве выкарыстоўваюцца прыродныя аднаўляльныя матэрыялы і тэхналогіі, якія падыходзяць для кліматычных умоў Беларусі.

З аднаго боку, вядома, гаворка ідзе не пра будаўніцтва шматкватэрных дамоў — а менавіта яны чыннік нізкай эканамічнасці ЖКГ.

Напрыканцы 1990-х гадоў у Беларусі атрымалася наладзіць масавую вытворчасць камплектаў для будаўніцтва такіх дамоў. Вось толькі, на жаль, асноўны попыт на іх фармавалі пакупнікі з Расіі. У нашай краіне галоўным заказчыкам стала Беларуская чыгунка. Тым не менш, па гэтай тэхналогіі ў 2000–2001 гадах былі пабудаваныя энергапасіўныя дамы ў вёсцы Дружная Мядзельскага раёна. Частка дамоў была абсталяваная ветракамі.

## Далей — болей

Пазней былі распрацаваныя новыя праекты дамоў: плошчай 120–130 квадратных метраў, сярэднім коштам каля $35000, тэрмінам будаўніцтва — 2,5 месяца. Яны маюць энергазатраты пры ацяпленні пры тэмпературы мінус 26 градусаў — усяго 4,5 квтг/м2. З 2008 года падобныя праекты прапаноўваўся для мэтаў аграэкатурызму. Дом, пабудаваны паводле такога праекту, — гэта дом «нулявога энергаспажывання», ён не падключаны да камунальных сетак, але ў той жа час вельмі камфортны для пражывання. Крыніцай электрычнасці служыць вятрак яхтавага тыпу, разлічаны на 400 квт/г, і сонечныя панелі таксама на 400 квт/г. Уся сістэма альтэрнатыўнай энергетыкі каштуе $8 тысяч.

Дом уцеплены саламянымі плітамі, якія ў тры разы лепш за цагляны мур захоўваюць цеплыню, абтынкаваныя глінай. Кошт будаўніцтва квадратнага метра складае прыкладна $400.

Аднак у апошнія гады ў Беларусі больш актыўна развівалася не столькі «зялёнае» домабудаванне ў цэлым, колькі выкарыстанне «альтэрнатыўных» энергазахавальных тэхналогій, якія цікавыя з пункту гледжання малых выдаткаў на будаўніцтва і экалагічнасці выкарыстаных матэрыялаў. Напрыклад, папулярнай стала экавата — матэрыял, які паспяхова ўжываецца ў Фінляндыі і іншых краінах Еўропы.

**У апошнія гады ў Беларусі больш актыўна развівалася не столькі «зялёнае» домабудаванне, колькі выкарыстанне «альтэрнатыўных» энергазахавальных тэхналогій, цікавых з пункту гледжання малых выдаткаў і экалагічнасці выкарыстаных матэрыялаў**

Для вытворчасці экаваты выкарыстоўваецца папяровая макулатура, якая «звязваецца» адмысловымі дадаткамі. Дадаткі надаюць экаваце адмысловыя ўласцівасці: антысептыкі паляпшаюць устойлівасць да біялагічных уздзеянняў, антыпірэны падвышаюць вогнеўстойлівасць, гідрафабізатары зніжаюць водапаглынанне і г.д. Перавага экаваты — магчымасць стварэння цеплаізаляцыйных сістэм з шырокім дыяпазонам паказчыкаў якасці ў залежнасці ад спосабу прылады цеплаізаляцыі.

Аднак больш экалагічным выглядае выкарыстанне пакуль новага для Беларусі матэрыялу — матаў, выробленых з адыходаў ільнаногай вытворчасці, так званага экатэрма. Гэты від уцяплення пакуль больш дарагі за экавату, але каэфіцыент яго цеплаправоднасці не перавышае 0,04 Вт на м2. Акрамя таго, гэты матэрыял гіпаалергенны. Тым не менш, нягледзячы на наяўнасць у Беларусі льнавытворчасці, вырабам такіх матаў займаецца фактычна адна-дзве фірмы.

## Энергаэфектыўнасць: дарага і складана?

У сегменце шматпавярховага жылога будаўніцтва ў Беларусі ёсць цэлы інстытут: «Інстытут жылля — НІПТІС імя Атаева», які даўно праектуе эканамічнае жыллё. З іншага боку, у краіне з выкарыстаннем энергаэфектыўных тэхналогій пабудавана ўсяго 10 шматкватэрных жылых будынкаў.

Першы не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД энергаэфектыўны 145-кватэрны 9-павярховы жылы дом з'явіўся ў Мінску ў 2007 годзе па вуліцы Прытыцкага, 107 — ён пабудаваны на базе тыпавой серыі 111-90 МАПІД. Таксама каля 24 дамоў было пабудавана з сістэмамі рэкуперацыі цеплыні.

Але якраз гэты досвед стаў негатыўным. У Мінску такія сістэмы няправільна змантавалі, яны сталі замярзаць, і жыхары самі іх дэмантавалі.

У Віцебску і Гродна жыхары энергаэфектыўных дамоў з рэкуперацыяй вентыляванага паветра сталі масава скардзіцца на растучыя выдаткі па аплаце за электрычнасць пры ўключанай сістэме вентыляцыі і рэкуперацыі паветра. Напрыклад, галоўны інжынер інстытута «Гроднагражданпраект» канстатаваў: «Тарыфная палітыка для насельніцтва за апошні год прывяла да таго, што рэкуперацыю, якая добрасумленна працавала чатыры гады, жыхары год таму адключылі, бо выкарыстоўваць яе стала нявыгадна. Прычына — новыя тарыфы на цеплавую і электрычную энергію. Калі кошт цеплавой энергіі застаўся на ранейшым узроўні — 13% ад сабекошту, то на электраэнергію тарыф падвышаны амаль да поўнага сабекошту. Стала невыгодна ганяць рэкуператар, тым больш што для жыхароў адзінага ў Гродна эксперыментальнага дома не павялічаны нават ліміт спажыванай электраэнергіі. А рэкуператар мае магутнасць 70 Вт. Такім чынам, зноў тармозіцца ўкараненне рэкуперацыі».

## Што далей?

У Беларусі прыватныя дамы, напрыклад, з саламяных блокаў, паступова пераходзяць з катэгорыі «хаты для жабракоў» у катэгорыю «хаты для разумных багатых».

Магчыма, у гэтай сферы нам зноў варта было б павучыцца ў немцаў. Сёння ў Германіі дзейнічае прафесійная асацыяцыя, якая займаецца будаўніцтвам дамоў з саламяных блокаў, распрацаваны адпаведны нацыянальны будаўнічы стандарт. Па гэтай тэхналогіі будуюць не толькі прыватныя дамы, але і дзіцячыя садкі, школы, кінатэатры. А з 2009 года гэтая тэхналогія будаўніцтва прынятая на заканадаўчым узроўні ва ўсім Еўрасаюзе.

Са шматкватэрнымі дамамі ўсё нашмат горш. Пры сённяшніх тарыфах на цеплазабеспячэнне, дом, які цяпер будуюць у Мінску з сістэмай рэкуперацыі вентыляванага паветра і ўтылізацыяй цеплыні сцёкавых вод, акупіцца праз... 45 гадоў. Але нават калі яго жыхары будуць аплачваць 100% кошту цеплаэнергіі, тэрмін акупляльнасці ўсё роўна складзе 12 гадоў.

Гэта тупік, з якога трэба шукаць выйсце.

Алег НОВІКАЎ

# Камбінацыя выбараў Пуціна зацверджаная

**Праз тыдзень пасля беларускіх выбараў новы парламент атрымае і Расія. Што з сябе ўяўляла расійская выбарчая кампанія, як яна паўплывае на выбары прэзідэнта РФ у 2018-м, ці можа расійская апазіцыя вывесці людзей на плошчу? Пра гэта НЧ распавядае маскоўскі публіцыст, рэдактар сайта Openleft.ru Ілля Будрайцкіс.**




***— З аднаго боку, Беларусь знаходзіцца ў медыя-полі расійскіх СМІ. З іншага — шараговы беларус не ведае расійскай «бытавухі». Адсюль узнікае скажоная карціна палітычнага працэсу ў суседняй краіне. Як на самай справе выглядае пуцінская мадэль «кіраванай дэмакратыі» напярэдадні выбараў 18 верасня?***

— Сучасная расійская палітычная мадэль уяўляе сабой зададзеную адміністрацыяй прэзідэнта канструкцыю, у якой вядучым партыям загадана трымацца рысы так званага «крымскага», або «пуцінскага», кансенсусу. Гэта значыць, што рознагалоссі дапускаюцца выключна па ўнутранай палітыцы, але анексія Крыма і іншыя знешнепалітычныя рашэнні, прынятыя кіраўніком дзяржавы, не падвяргаюцца сумненню і выводзяцца па-за межы дыскусіі. Затое «сістэмнай апазіцыі» можна — і нават трэба — крытыкаваць партыю «Адзіная Расія» ці выступаць за адстаўку прэм'ера Мядзведзева.

Факусаванне выбарчай кампаніі на ўнутранай павестцы можна растлумачыць і тым, што за два гады людзі трохі стаміліся ад патрыятычнай прапаганды. Яна не здольная даць выразныя тлумачэнні эканамічнаму крызісу, які толькі паглыбляецца, і досыць рэзкаму зніжэнню ўзроўню жыцця. І так ці інакш, Крэмль павінен дазваляць агучваць сацыяльна-эканамічную праблематыку, таму што яму важна прыцягнуць на выбарчыя ўчасткі як мага больш матываваных выбаршчыкаў.

Нарэшце, за кошт допуску да выбараў новых партый створана ілюзія большага плюралізму (у параўнанні з мінулымі скандальнымі выбарамі 2011 года). Акрамя таго, абвастрылася барацьба на рэгіянальным узроўні ў сувязі з тым, што палова месцаў у Думе будзе аддадзена мажарытарным дэпутатам.

***— На гэтых выбарах колькасць партый павялічылася ў два разы. Ці здолелі партыі-неафіты заявіць пра сябе?***

— Не. У асноўным гэта «партыі-спойлеры», якія закліканы забраць галасы ў вядучых парламенцкіх партый або павялічваць дэзарыентацыю ў апазіцыйнага электарату. Напрыклад, партыя «Камуністы Расіі» адбірае пункты ў Зюганава за кошт выбаршчыкаў, якія блытаюцца ў назвах камуністычных партый. А ліберальная «Партыя Росту» абяцае абараняць малы бізнес, падтрымліваючы Пуціна. Пры гэтым для прыцягнення цікавасці да сябе новымі партыямі агучваюцца самыя радыкальныя прапановы. Тыя ж «Камуністы Расіі» выступаюць за рэстаўрацыю сталінізму, інтэрвенцыю ва Украіну і жорсткую барацьбу з уяўнымі бандэраўцамі ўнутры Расіі. Але прыкметна, што асаблівага энтузіязму ад кампаніі няма нават сярод актыву новых партый.

***— Якая сітуацыя ўнутры антыпуцінскага лагеру?***

— ПАРНАС — вядучая сіла ліберальнай апазіцыі, падышла да дня галасавання ў статусе трэш-партыі. Гэта вынік унутраных расколаў (ад ПАРНАСу дыстанцыяваліся Уладзімір Рыжкоў і Аляксей Навальны) і збліжэння з радыкальнымі нацыяналістамі. Апошніх прадстаўляе (у якасці аднаго з лідараў партыйнага спісу) саратаўскі палітык Вячаслаў Мальцаў, які заклікае да неадкладнага імпічменту «Вовы Пуціна» і барацьбы з «яўрэйскай мафіяй». Улічваючы тое, што Мальцаў даўно знаёмы з галоўным крамлёўскім палітстратэгам Вячаславам Валодзіным (ён таксама з Саратава), ёсць чуткі аб яго цалкам прадуманай ролі па дыскрэдытацыі апазіцыі. ПАРНАС прыкметна адстае ад «Яблыка» — сістэмнай ліберальнай партыі, чый гістарычны лідар Рыгор Яўлінскі цяпер практычна вярнуўся з палітычнага нябыту. «Яблыка», верагодна, выканае больш сціплую задачу — атрымае тры працэнты, якія дазваляць партыі захаваць дзяржаўную фінансавую падтрымку і выставіць Яўлінскага на будучых прэзідэнцкіх выбарах 2018 года.

***— Ці можна з такой стартавай пазіцыяй лібералам ісці на «новую Балотную»?***

— Балотная плошча ў 2011-м мела месца таму, што выбары былі моцна дыскрэдытаваныя. Сістэма дала сур'ёзны збой з-за відавочных усім фальсіфікацый на карысць «Адзінай Расіі». Цяпер за кошт допуску апазіцыі ў СМІ і новага кіраўніцтва ЦВК такія прэтэнзіі наўрад ці магчымыя. Навошта апазіцыі, якая атрымае адзін працэнт, у такой сітуацыі ісці на плошчу? Каб патрабаваць два працэнты? Але нават для легітымацыі такіх пратэстаў патрэбная сетка назіральнікаў на ўчастках. У апазіцыі зараз няма дастатковай колькасці кадраў, перш за ўсё ў рэгіёнах.

***— У прэсе папулярны тэзіс пра тое, што Думскія выбары–2016 — гэта рэпетыцыя прэзідэнцкіх выбараў 2018-га…***

— Сапраўды, ёсць адчуванне, што ўжо зацверджана кампазіцыя будучых прэзідэнцкіх выбараў, на якіх Пуцін зноў пойдзе ў прэзідэнты. Цяперашнія выбары — гэта праверка гатоўнасці да прэзідэнцкіх на ўсіх узроўнях, уключаючы праверку стану «ручной апазіцыі». Хутчэй за ўсё, Жырыноўскі, Яўлінскі і Зюганаў зноў будуць апаніраваць Пуціну праз два гады. Аднак ёсць фактары, якія ў Крамлі проста не могуць да канца пралічыць. Гэта сацыяльныя наступствы спаду эканомікі, звязаныя не проста з сусветнай кан'юнктурай нафтавых коштаў або санкцыямі, але ў цэлым з крызісам постсавецкай мадэлі эканомікі.

Акрамя таго, урад праводзіць паслядоўны антысацыяльны курс. Так, нягледзячы на інфляцыю, за два гады не было кампенсацый заробкаў, уводзяцца новыя спосабы ўскоснай канфіскацыі грошай у насельніцтва, накшталт платы за карыстанне дарогамі або за капітальны рамонт. Верагодна, што адразу пасля выбараў усё ж такі будзе здзейснена павышэнне пенсійнага росту. Міністры эканамічнага блока ўрада не хаваюць, што іх задача — радыкальна апусціць кошт працоўнай сілы, каб прыцягнуць знешні капітал. Таму будзе нарастаць дынаміка сацыяльных пратэстаў.

Ёсць унутраныя супярэчнасці. Мы бачым узмацненне рэпрэсіўнага апарата не толькі ў галіне заканадаўства, але і ў стварэнні сілавых структур накшталт Нацгвардыі, якая «завостраная» пад падаўленне народных стыхійных бунтаў. Ідэі таго, што маштабная антыўрадавая змова расце, актыўна распаўсюджваюцца кіраўнікамі сілавых ведамстваў, якія канкуруюць паміж сабой, і самі міжволі становяцца зацікаўленымі ў правакаванні пратэстаў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Доўгі час неэфектыўная дзяржаўная гаспадарка Беларусі жыве за кошт расійскіх крэдытаў і расійскай нафты. Таксама доўгі час яе аўтакратычны лідар праводзіць «ракетную палітыку» з Захадам, каб узмацніць свае пазіцыі ў перманентнай барацьбе з Крамлём. Пасля пачатку вайны ва Украіне Мінск стаў пляцоўкай для перамоваў. У адказ ЕС узнагародзіў Мінск адменай санкцый. Аднак пасля гэтага Лукашэнка стаў лавіраваць яшчэ больш інтэнсіўна. Ён не дазволіў Маскве стварыць сваю авіябазу ў Беларусі. Даў загад не пускаць у парламент радыкальных прадстаўнікоў «рускага міра». Менавіта абапіраючыся на невялікую прарасійскую партыю Крэмль правеў сваю аперацыю ў Крыме.

**Frankfuter Allgemeine Zeitung (Германія)**

Вынікі выбараў паказалі поўны кантроль Лукашэнкі над сітуацыяй у краіне, магчымасць выразнага «праграмавання» адміністрацыйнымі метадамі чаканага выніку. У цяперашні час вынікі парламенцкіх выбараў цалкам адпавядаюць бягучай фазе шматвектарнасці знешняй палітыкі «адлігі» ў адносінах з ЗША і ЕС. Наўрад ці гэтая мадэль будзе зменена ў бліжэйшай перспектыве, паколькі цалкам забяспечвае кансервацыю дзеючай вертыкалі ўлады. Гэта цынічны, запланаваны элемент «дэмакратызацыі», разлічаны на заходняга назіральніка, у той дозе, якая дазваляе пазбегнуць фармавання сістэмнай парламенцкай апазіцыі.

**«Европейская правда» (Украіна)**

Двух апазіцыянераў пусцілі. Альтэрнатыўнае ўладнаму меркаванне загучыць у сценах парламента? Час, вядома, пакажа. Аднак паказальным з'яўляецца той факт, што, ледзь стаўшы дэпутатам, тая ж Канапацкая адмовілася ад інтэв'ю з незалежнымі СМІ, але з задавальненнем адправілася на дзяржаўнае Беларускае тэлебачанне. Але нічога крамольнага там не сказала. (...) З апазіцыянерак у парламенце Лукашэнка зробіць пудзіла для беларусаў: маўляў, галасуй, але мы з твайго абранніка зробім тое, што нам трэба.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Чарговая спроба Лукашэнкі наладзіць адносіны з краінамі Еўрасаюза выявілася не толькі ў амністыі часткі лідараў апазіцыі, але і ў выніку выбараў. На расклад сілаў вяртанне да сітуацыі шаснаццацігадовай даўніны гэта не ўплывае, затое спрацоўваюць канфлікты сярод апазіцыянераў.

**АПН (Расія)**

Вядома, прэтэнзіі да выбараў ёсць. Вядома, адміністрацыйны рэсурс працаваў. Вядома, не могуць быць абсалютна дэмакратычнымі выбары, калі ў датэрміновым галасаванні ўдзельнічала, паводле афіцыйных дадзеных, больш за 30 працэнтаў выбаршчыкаў. Так, мы маем справу з выбарамі ў аўтарытарным рэжыме. Але пры гэтым вельмі павольна працэсы дэмакратызацыі ўсё ж адбываюцца. І ўсё роўна, з дазволу ці не з дазволу ўладаў выйгралі два кандыдаты (зараз ужо дэпутаты), якія прадстаўленыя як апазіцыйныя (хацелася б паглядзець, як яны будуць галасаваць, – тады будзе зразумела), але гэта ўжо кажа пра тое, што нейкі рух ёсць.

**«Радио Свобода» (ЗША)**

Прызнанне Захадам вынікаў выбараў у Беларусі будзе залежаць не ад таго, прайшлі туды два нібыта апазіцыянеры, ці не. Усё будзе залежаць ад кулуарных гутарак Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Макея. Калі яны дамовіліся аб далейшым шляху супрацоўніцтва, то выбары прызнаюць хаця б часткова. Гэта значыць, скажуць, што выбары былі недэмакратычныя, шмат парушэнняў, але яны прайшлі (што праўда) у лепшым выглядзе за апошнія гады: адносная свабода дзеяння была, канкурэнцыя часам была, дазвалялі рабіць заявы, агітаваць і гэтак далей. Прыкладна такія фармулёўкі могуць быць у выніковым заключэнні.

**REGNUM (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Як не ўзніклі Злучаныя Штаты Цэнтральнай Азіі

У пачатку верасня адсвяткавалі гадавіну сваёй незалежнасці практычна ўсе краіны Цэнтральнай Азіі. З гэтай нагоды журналісты ўзялі шмат інтэрв'ю ў тых, хто чвэрць стагоддзя таму стаяў ля вытокаў незалежнасці краін рэгіёну. Падчас размоў з былымі чыноўнікамі і палітыкамі нечакана высветлілася, што ў Ташкенце і Алма-Аце восенню 1991 года актыўна абмяркоўваўся праект стварэння Саюзнай дзяржавы, куды маглі ўвайсці ўсе былыя цэнтральнаазіяцкія постсавецкія рэспублікі. Ідэю саюзу таксама падзялялі эліты ў Душанбе, Фрунзе і Ашхабадзе. Не супраць інтэграцыі быў нават Сапармурат Ніязаў, які з цягам часу зрабіў Туркменістан практычна ізаляванай краінай. Аднак у выніку саюз так і не адбыўся. На думку сучаснікаў, прычынай правалу стала адсутнасць аднаго лідара, які б мог павесці за сабою іншых. Па іроніі гісторыі, такіх лідараў на той момант аказалася два — Іслам Карымаў і Нурсултан Назарбаеў. Паміж імі пачалася негалосная канкурэнцыя за ўплыў на іншыя рэспублікі, і кансультацыі наконт магчымага аб'яднання скончыліся. Максімум, на што выйшлі аматары саюзу, — агульная дамова ўсіх краін Цэнтральнай Азіі пра супрацоўніцтва і вечнае сяброўства.

**Паводле казахскай прэсы**

### Францыя. Шорты і палітыка

Палітызацыя праблемы жаночай вопраткі ў Францыі пасля забароны буркіні — мусульманскага жаночага адзення для купання, — не скончылася. Апошнім часам з некаторых куткоў краіны пачалі прыходзіць навіны пра замахі на жанчын, якія носяць шорты. У лепшым выпадку, усё абмяжоўваецца крыўднымі славеснымі атакамі. У горшым — уладальніц шортаў могуць нават збіць, як нядаўна было ў Тулоне. Натуральна, узнікла версія, што пераслед жанчын у шортах — помста мусульман за забарону буркіні. Хаця пакуль паліцыя кажа, што не ведае матываў хуліганаў, «мусульманскую» версію актыўна падхапіў Нацыянальны Фронт. Як кажуць яго спікеры, грамадства павінна ўзняцца на абарону шортаў, інакш наступ шарыяту ў Францыі непазбежны. Адначасова паўстала ініцыятыва абаронцаў правоў жанчын насіць шорты. У Тулоне па яе закліку прайшла дэманстрацыя з удзелам прыкладна ста чалавек. Усе яны, натуральна, былі апранутыя ў шорты.

**Паводле французскай прэсы**

### Украіна. На падыходзе моўная паліцыя

Украінскі пісьменнік Аляксандр Гарабец заклікаў стварыць ва Украіне новы дзяржаўны орган — моўную паліцыю. Сам ініцыятар бачыць новы дэпартамент наступным чынам: «Моўная паліцыя павінна быць сур'ёзным дзяржаўным органам. Яна павінна не толькі сачыць за тым, каб у транспартных сродках не гучала расійская папса, не з'яўлялася акупацыйная моўная рэклама, на вуліцах не раздаваліся абвесткі, падобныя на тыя, што раздаюцца ва Урупінску ці Варкуце». Праўда, Гарабец не супраць таго, каб рускамоўныя ўкраінцы мелі свае каналы на тэлебачанні. Ідэя Гарабца не такая ўжо і экстравагантная, асабліва з улікам нядаўняй публікацыі на старонках выдання «Украінская праўда». Паводле сацыёлагаў, памер ужывання грамадзянінам украінскай мовы прама прапарцыйны гатоўнасці абараняць краіну. З іншага боку, ідэя «моўнай паліцыі» выглядае маларэальнай. У парламенце ўжо ідуць бурныя спрэчкі наконт бюджэту 2017 года, і, як следства, ствараць новы дэпартамент позна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Джо Байдэн — наступны прэзідэнт

Пасля таго, як 12 верасня Хілары Клінтан вырашала перарваць удзел у выбарчай кампаніі праз хваробу на пнеўманію, журналісты кінуліся капацца ў статуце дэмпартыі. Іх цікавіць, што статут патрабуе рабіць у выпадку, калі партыйны кандыдат па нейкай прычыне (у тым ліку па хваробе) вымушаны выйсці з выбараў. Як гаворыцца ў статуце, у такім выпадку прозвішча новага кандыдата павінен назваць Нацыянальны камітэт партыі. Прэса лічыць, што ўсур'ёз Камітэт можа разглядаць дзве кандыдатуры — цяперашні віцэ-прэзідэнт Джо Байдэн і вядучы апанент Клінтан на праймерыз Берні Сандэрс. З улікам таго, што Сандэрс мае рэнамэ вельмі левага палітыка і не падабаецца істэблішменту, большыя шанцы ў Джо Байдэна. Дарэчы, напярэдадні кампаніі ён даваў зразумець свой намер балатавацца, аднак пасля пагадзіўся на кандыдатуру Клінтан. У гэтым сцэнары яшчэ шмат непрадказальнага. Па-першае, Клінтан павінна сама адмовіцца ад удзелу ў выбарах, у што, ведаючы яе характар, мала хто верыць. Па-другое, працэдура кастынгу замены кандыдата, які праз хваробу сышоў з дыстанцыі, прапісана вельмі паверхоўна, і пры жаданні можна прыдумаць новыя механізмы абрання новага кандыдата ад дэмакратаў. Як прызнаўся адзін з апаратчыкаў дэмпартыі, у выпадку сур'ёзнай хваробы Хілары сітуацыя становіцца папросту непрадказальнай.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Баскі вырашаюць усё

Алег НОВІКАЎ

**Хутка год, як Іспанія не мае ўраду. Вынікі рэгіянальных выбараў, якія пройдуць 25 верасня, могуць або дапамагчы краіне знайсці выйсце з тупіку, або, наадварот, дэтэрмінаваць непрадказальныя для яе лёсу працэсы.**



Хаця галасаваць 25 верасня будуць баскі і галісійцы, асноўная ўвага прыцягнутая да выбараў у Краіне Баскаў. Няма сумневаў, што галоўную скрыпку ў новаабраным парламенце Краіны Баскаў будзе граць цэнтрысцкая Баскская нацыянальная партыя (PNV). На яе базе, хутчэй за ўсё, будзе фармавацца і рэгіянальны ўрад (увогуле, за ўсю гісторыю баскскай аўтаноміі толькі аднойчы краем руліў нехта іншы за PNV).

Аднак самастойна ў Іньіга Уркулью — лідара нацыяналістаў — гэта наўрад ці атрымаецца. Калі верыць сацыялогіі, партыя атрымае 27–28 мандатаў з 38 неабходных для ўрадавай большасці. Таму палітыку давядзецца шукаць кансенсус з фракцыямі іншых партый. Зараз, напрыклад, таксама не маючы большасці ў парламенце, PNV абапіраецца на падтрымку сацыялістаў.

Захаваць спайку з сацыялістамі ў будучым парламенце дакладна не атрымаецца. Папулярнасць мясцовага філіялу PSOE (Іспанская сацыялістычная рабочая партыя) скарацілася амаль удвая. Адпаведна, 8 мандатаў, якія, верагодна, атрымаюць сацыялісты, не выратуюць Уркулью. Праблему дэфіцыту галасоў давядзецца вырашаць за кошт кагосьці іншага. І тут заключаецца галоўная інтрыга баскскіх выбараў.

Акрамя PSOE і PNV, у парламент трапляюць кансерватары з Народнай партыі, левыя нацыяналісты з «Euskal Herria Bildu» («Адзінства краіны баскаў») і стракатая тусоўка радыкальных левых: камуністаў, феміністак, эколагаў пад назвай «Elkarrekin Podemos» — секцыя агульнаіспанскага руху «Podemos». Паколькі Народная партыя набірае таксама няшмат, застаецца «Bildu» і «Elkarrekin Podemos», а гэта публіка, мякка кажучы, вельмі экстравагантная, што ў выпадку прыходу яе да ўлады можа мець адпаведныя наступствы.

Напрыклад, партыя «Bildu» з'яўляецца нефармальным нашчадкам арганізацыі «Batasuna», якая не хавала, што з'яўляецца палітычным вітрынай тэрарыстычнай нацыяналістычнай групоўкі ЕТА. Не дзіўна, што ў выніку «Batasuna» забаранілі, а дастаткова вялікі сегмент яе прыхільнікаў (прыкладна 15 працэнтаў баскскіх выбаршчыкаў) быў проста выключаны з палітычнага працэсу. Толькі ў 2012 годзе ім дазволілі зноў мець легальную партыю, якая, праўда, зараз асуджае баявыя сродкі ў барацьбе за незалежнасць. У прынцыпе, хапае плётак наконт таго, што за легалізацыю «Bildu» нацыяналісты ўзялі абавязак ціснуць на тэрарыстычнае падполле. Сапраўды, пасля выхаду «Bildu» на палітычную арэну, ЕТА апавяшчае пра сябе выключна ў фармаце заяваў і рэзалюцый.

Аднак мінулае «Bildu» дае пра сябе ведаць. Кандыдатам ад «Bildu» ў прэм'еры Краіны Баскаў названы Арнальда Атэгі — культавая фігура сярод нацыяналістаў, былы лідар «Batasuna», які толькі нядаўна мабыў выпушчаны з турмы, куды, дарэчы, трапіў «за гларыфікацыю тэрарызму». Абсалютна незразумела, як PNV без рэпутацыйных страт зможа весці дыялог з Атэгі. Зараз, праўда, суд пастанавіў, што Атэгі ўвогуле не можа балатавацца, аднак сітуацыю ў комплексе гэта не змяняе.

**Выбары пройдуць па слядах стотысячнай маніфестацыі сепаратыстаў у Барселоне, што адбылася 11 верасня. Гэта акцыя традыцыйна мабілізуе ўсіх крытыкаў цяперашняй мадэлі іспанскай дзяржавы**

Будзе Атэгі ў парламенце ці не, урадавая дамова PNV з «Bildu» ўзмацняе цэнтрабежныя працэсы па ўсей Іспаніі. Так ці інакш, PNV будзе вымушана дапускаць у свой дыскурс тэзіс пра выхад Краіны Баскаў са складу Іспаніі. Звычайна Іньіга Уркулью і яго аднапартыйцы ў сваіх патрабаваннях не выходзяць за межы лозунгу пашырэння суверэнітэту краю, і ўвогуле піяраць сабе як партыю «моцных гаспадарнікаў». Палітолагі таксама баяцца, што кааліцыя з «Bildu» ўзмоцніць нацыяналістычныя колы ўнутры PNV, выклікае трэнд на сыход партыі направа.

Відавочна, што разам з урадам Каталоніі, дзе таксама верхаводзяць незалежнікі, Віторыя (сталіца баскаў) і Барселона могуць больш рашуча размаўляць з Мадрыдам. Важна адзначыць, што выбары 25 верасня пройдуць па слядах стотысячнай маніфестацыі сепаратыстаў у Барселоне, што адбылася 11 верасня. Гэта акцыя традыцыйна мабілізуе ўсіх крытыкаў цяперашняй мадэлі іспанскай дзяржавы.

Праблема таксама ў тым, што альтэрнатывы блоку з «Bildu» для PNV фактычна няма. Трэба мець фантазію Жуля Верна і Стывена Кінга, каб уявіць сабе кааліцыю з «Elkarrekin Podemos». «Elkarrekin Podemos» — увогуле сітуацыйнае аб'яднанне пад выбары 25 верасня, якое можа разваліцца ў любы момант.

Праўда, сваю справу гэтая групоўка ўжо зрабіла. Яны на галаву, калі верыць сацыялагічным апытанням, абышлі сацыялістаў. У праекцыі на нацыянальную сітуацыю гэта значыць, што «Podemos» захоўвае шанцы стаць вядучай левай (чытай, галоўнай апазіцыйнай) партыяй у Іспаніі. Не выключана, што такі расклад рэалізуецца ўжо ў снежні, калі могуць прайсці чарговыя пазатэрміновыя выбары ў краіне. Гэта значыць, што Іспанія можа паўтарыць шлях Грэцыі, дзе пры ўладзе аб'яднанне SIRIZA — мясцовы аналаг «Podemos».

Магчымыя і іншыя варыянты будучага іспанскага ўраду. Аднак тут шмат будзе залежаць ад таго, у якім стане да снежаньскіх парламенцкіх выбараў падыдзе Народная партыя. Маючы большасць у парламенце, яе лідар Марыяна Рахой ужо двойчы не здолеў дамовіцца з іншымі партыямі наконт стварэння ўраду. Хапае тых, хто лічыць, што праблема ў самім Рахоі, які мае адмоўны імідж сярод тых жа лібералаў, якія быццам бы не супраць кааліцыі. Зрынуць Рахоя можа дапамагчы слабы вынік партыі ў Галісіі, якая лічыцца бастыёнам кансерватараў. У сваю чаргу, Рахою надзвычай важна прадэманстраваць, што пад яго кіраўніцтвам «народнікі» могуць здабываць салідныя электаральныя перамогі.

# Гэць Петрасяна!

Алег НОВІКАЎ

**Скандальны скетч вядомага ўкраінскага гумарыста Уладзіміра Зяленскага з «Квартала 95» падзяліў украінскую аўдыторыю па прынцыпе — з каго і з чаго павінны сёння смяяцца ўкраінцы?**

Першым актам скандалу стаў эстрадны маналог артыста ў латышскай Юрмале 10 верасня. У адным з нумароў Зяленскі пажартаваў, што «Украіна нагадвае акцёрку з нямецкага фільма для дарослых, якая гатовая прыняць усіх». Пасля параўнаў радзіму з «алкаголікам, які выносіць з дому рэчы».

Магчыма, калі б падобнае адкалоў нейкі іншы гумарыст, гэта б нават і не заўважылі. Аднак «Квартал 95» — вядучы украінскі творчы калектыў у галіне сатыры і гумару. Па сутнасці, гэта цэлая індустрыя, якая, акрамя канцэртаў і тураў, здымае фільмы і мультфільмы, запісвае музычныя ролікі, мае сваё штодзённае шоу на тэлебачанні.

Нягледзячы на ўсе рэгаліі «Квартала 95», украінскай патрыятычнай супольнасці скетч у Юрмале вельмі не спадабаўся. Інтэрнэт-форумы разрываюцца ад каментараў, аўтары якіх ледзь не пагражаюць Зяленскаму. Калі ўзгадаць пра нядаўні падпал нацыяналістамі офісу каналу «Інтэр», якi напярэдадні таксама абвінавацілі ў «непатрыятызме», такія каментары ўспрымаюцца не проста як мімалётная эмацыйная экспрэсія.

Адрэагаваў на канцэрт у Латвіі і палітыкум. Дарадца Парашэнкі Юрый Бірукоў назваў нумар «Квартала 95» «выступам падонкаў». Далей за ўсіх пайшоў лідар Радыкальнай партыі Алег Ляшко, які патрабаваў забараніць дзейнасць калектыву ва Украіне.

Крытыкі комікаў прызнаюць: у тым, што казаў акцёр у Юрмале, прысутнічае доля праўды. Тая ж практыка пошуку ўкраінскімі чыноўнікамі крэдытаў за мяжой раздражняе грамадства. Аднак, на іх думку, падобнае смецце лепш пакідаць дома. Знешні імідж Украіны, маўляў, павінен заставацца выключна пазітыўным. Тым больш, што неабвешчаная вайна з Расіяй трывае, і параўнанні Украіны з акцёркай з порнафільму можа кепска ўплываць на градус патрыятычнасці.

Адначасова ў «Квартала 95» сфармавалася і група падтрымкі. Для іх Зяленскі — эталон патрыёта, паколькі смела агучвае праблемы краіны. Акрамя таго, акцёр засведчыў свой патрыятызм у мінулым. Пасля пачатку канфрантацыі ў Данбасе артысты з «Квартала 95» выступалі на фронце, што выклікала лютасць у расійскіх медыя. Нарэшце, яны звярталі ўвагу, што на канцэрце ў Юрмале прысутнічала група мясцовых украінцаў, якая вылзялялася жоўта-блакітным сцягам. Землякі віталі жарты на сцэне, не заўважаючы ў іх ніякай крамолы.

Аднак значна больш цікавыя дэбаты справакаваў скандал сярод культуролагаў. Частка інтэлектуалаў выкарыстала скандал для таго, каб заклікаць радыкальна рэфармаваць украінскі гумар. На іх думку, вульгарны нізкапробны гумар «Квартала 95» — «петрасяншчына мясцовага гатунку», якая ў сваю чаргу ёсць рудыментам каланіяльнай культуры. Гэтая традыцыя ўзнікла яшчэ ў XIX стагоддзі, калі ўкраінская культурная дзейнасць трапіла пад забарону. Адзінае, што дазвалялі расійскія чыноўнікі, — тэатральныя пастановы, дзе, пераважна, ставілі камеды на побытавыя тэмы, у якіх аб'ектам жартаў былі ўкраінскія сяляне.

Паводле некаторых, гэты рудымент імперскага мінулага захаваўся дасюль. «Паказальны вусаты дзядзька ў шараварах, карыкатурныя «хлопцы з раёна», якія размаўляюць на дзікім суржыку, дзябёлая цётка — набор персанажаў украінскіх гумарыстычных перадач і скетчаў стандартны ўжо доўгія гады», — піша выданне «Комментарии». Адсюль прапанова — уладальнікі тэлеканалаў і топ-менеджмент павінны ініцыяваць змены ў эфіры, перастаць рабіць акцэнты на ўкраінскім комплексе няпаўнавартасці. Вядомы палітолаг Віталь Портнікаў нават прапанаваў канон, на які павінны арыентавацца ўкраінскія майстры гумару. Тут і Гогаль, і Шалом-Алейхем, і Астап Вішня, і іншыя.

У сваю чаргу, іншая фракцыя культуролагаў патрабуе пакінуць народу права на прымітыўны гумар. Згадваецца, што той жа персанаж Містэр Бін — кумір брытанцаў, — таксама яўна не пакутуе на тонкі эстэтычны гумар. Што да ідэі кампаніі супраць «петрасяншчыны», то яна, быццам, не мае шанцаў. Пра гэта сведчыць 25-гадовы досвед украінскага шоў-бізнесу. Як паказвае практыка, ніякае развіццё інфармацыйных тэхналогій пакуль не здольнае прымусіць украінцаў перастаць смяяцца з сябе.

Другая і, магчыма, галоўная перашкода — украінскі парламентарызм у цяперашнім выглядзе. «Як прывучыць гледача да высокага мастацтва, калі дастаткова ўключыць трансляцыю з Рады або любое палітычнае ток-шоў, і ўкраінцы пабачаць тыя ж карыкатурныя персанажы, толькі ў строях пабагацей», — смяецца адзін з блогераў.

Што тычыцца саміх артыстаў, то яны заклікаюць разглядаць свой выступ у Юрмале выключна як жарт. Артысты таксама лічаць, што сталі ахвярай палітыкаў, якім патрэбныя падобныя скандалы, каб адцягнуць увагу ад актуальных праблем у краіне, зрабіць сабе піяр. Апроч гэтага, у некаторых палітыкаў накшталт таго ж Ляшко можа быць асабісты «зуб» на «Квартал 95». У рэпрызах акцёр, які выконвае ролю Ляшко, намякае на нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю свайго прататыпа.

Аднак так проста адмазацца Зяленскаму наўрад ці атрымаецца. Ягоным маналогам у Латвіі вельмі незадаволены алігарх Ігар Каламойскі, на тэлеканале якога працуе «Квартал». «З вялікім расчараваннем паглядзеў выступ «Квартала 95» у Юрмале. Тлумачэнне (нават не прабачэнне), напісанае ў Фэйсбуку, сітуацыю не выправіла. Таму будуць аргвысновы!» — пагражае Каламойскі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Алмазбек Атамбаеў

Прэзідэнт Кыргызстана вырашыў стварыць спартовае мерапрыемства, якое можа канкураваць з алімпіядамі. Яго назва — «Сусветныя гульні качэўнікаў», або Міжнародныя спартовыя спаборніцтвы па этнічных відах спорту. У аснову спаборніцтваў ляглі народныя гульні гістарычна качавых народаў Цэнтральнай Азіі.

На мінулым тыдні ў Кыргызстане закончыліся другія такія гульні, якія сталі важнай падзеяй для ўсяго рэгіёну Цэнтральнай Азіі. У спаборніцтвах па 23 відах гульняў удзельнічалі каля тысячы спартсменаў з 53 краін. Сярод дысцыплінаў былі вельмі экзатычныя — напрыклад, паляванне з выкарыстаннем лоўчых птушак. Нельга не згадаць і кок-бары, калі каманды коннікаў спрабуюць захапіць муляж тушы казла і закінуць яго ў вароты суперніка.

Поспех гульняў і падштурхнуў Атамбаева абвясціць іх альтэрнатывай Алімпіядзе. Увогуле, гэта ўжо другая рэгіянальная спроба заснаваць сусветныя спаборніцтвы. Калісьці, пасля таго, як Ташкенту адмовілі ў праве прымаць Алімпіяды, прэзідэнт Карымаў пачаў праводзіць тут цэнтральнаазіяцкія алімпійскія гульні. Праўда, энтузіязму ў яго хапіла ненадоўга.

Распавядаючы пра гульні качэўнікаў, нельга не ўзгадаць пра тое, што іх наведаў знаёмы беларусам Стывен Сігал. Акцёр, апрануўшы даспехі качэўніка, актыўна ўдзельнічаў у розных мерапрыемствах, фатаграфаваўся з публікай, рэкламуючы адначасова і рэжым Атамбаева.



### Ангела Меркель

Канцлер ФРГ і старшыня Хрысціянска-дэмакратычнага саюза прыдумала, як адказаць на шантаж Баварыі. Там Хорст Зеехофер, мясцовы зямельны прэм'ер і лідар Хрысціянска-сацыяльнага саюза (партнёр хадэкаў па кааліцыі), фактычна пагражае выйсці з кааліцыі, калі Меркель не зменіць на пасадзе хто-небудзь іншы. Гэты іншы, на думку Зеехофера, павінен праводзіць больш жорсткую антыміграцыйную лінію.

На сваёй старонцы ў Facebook Ангела Меркель напісала, што атакі баварцаў на ХДС могуць быць паспяховымі выключна тады, калі ХСС выступае маналітнай структурай. Некаторыя аднапартыйцы раслумачылі такія словы, як заклік Меркель да стварэння баварскай секцыі хрысціянскіх дэмакратаў, што, безумоўна, паслабіць пазіцыі Зеехофера. Наколькі рэальная такая перспектыва, казаць цяжка. Гэта азначае як мінімум дэфрагментацыю правацэнтрысцкага лагеру, які з самага пачатку заснавання ФРГ выступаў кансалідавана.

Пакуль Мюнхен не каментуе падзеі ў штабе хрысціянскіх дэмакратаў. Думаецца, што там чакаюць вынікаў выбараў у берлінскі сенат 18 верасня. Калі ХДС зноў прадэманструе кепскі вынік, як 4 верасня ў Мекленбургу — Пярэдняй Памераніі, Зеехофер атрымае дадатковыя козыры ў барацьбе з Меркель. Застаецца дадаць, што да канца верасня прапанавалася ўзгадніць агульную праграму ХДС і ХСС (у тым ліку пункт пра іміграцыю), з якой кааліцыя пойдзе на федэральныя парламенцкія выбары ў наступным годзе.

### Радрыга Дутэртэ



Прэзідэнт Філіпінаў працягвае шакаваць свет. Не так даўно, ледзьве не напярэдадні сустрэчы з Абамай, ён назваў амерыканскага прэзідэнта «сынам путаны». Такая заява выклікала буйны скандал. Барак Абама ад сустрэчы з Дутэртэ, натуральна, адмовіўся. Паколькі падчас спаткання павінны былі абмяркоўвацца праблемы супрацоўніцтва, адмена сустрэчы, па разліках экспертаў, прама і ўскосна каштавала Філіпінам каля ста мільёнаў долараў.

Падавалася, што гэтая гісторыя была для Дутэртэ добрым урокам. Ён, сапраўды, папрасіў прабачэння ў амерыканскага калегі. Аднак не прайшло і тыдня, як Дутэртэ зноў укусіла нейкая муха. 12 верасня ў інтэрв'ю «Wall Street Journal» ён запатрабаваў ад амерыканцаў вывесці свой кантынгент з поўдня краіны, дзе жывуць пераважна мусульмане. На яго думку, прысутнасць амерыканцаў у мусульманскім арэале правакуе тубыльцаў на партызанку, з якой пасля вымушаная змагацца Маніла.

Новы дэмарш Дутэртэ зноў паставіў Вашынгтон у складаную сітуацыю: базы на Філіпінах разглядаюцца як важны элемент у супрацьстаянні з Кітаем за акваторыю Паўднёва-кітайскага мора. Магчыма таму афіцыйныя спікеры Белага дому паспрабавалі не заўважыць новы антыамерыканскі дэмарш філіпінскага лідара. Тым не менш, палітолагі ўсё больш пагаджаюцца з тэзісам пра тое, што антыамерыканізм можа стаць важным складнікам курсу новага прэзідэнта Філіпінаў.

**Юры Хадыка — прафесар, доктар фізіка-матэматычных навук, палітык, грамадскі і культурны дзеяч, легенда беларускага адраджэння — пайшоў з жыцця раніцай 11 верасня ва ўзросце 78 гадоў. Апошнія некалькі гадоў ён жыў у сям'і сына ў ЗША, але яго непарыўная сувязь з Беларуссю адчувалася ў кожным яго слове. Гэты артыкул прафесар Юры Хадыка напісаў для «Новага Часу» ў маі 2009 года. Ён дасюль актуальны, і мы вырашылі яго паўтарыць. У памяць пра гэтага светлага чалавека, у гонар яго сапраўднай мужнасці і самаахвярнасці.**



# Нацыяналізм і патрыятызм

Юры ХАДЫКА

*Мужыцкі Брэйгель трызніць родным краем*
*На вуліцы паміж абжорных крам.*
*О крамы, крамы!*
*Вы душа радзімы.*
*Уладзімір Караткевіч*


Фота Юрыя Дзядзінкіна

Гэта цяжкая тэма. Столькі бруду і лаянкі было выліта за савецкім часам на нацыяналізм і нацыяналістаў, што і сёння ні ў кожнага хопіць смеласці сказаць: я — нацыяналіст. Разам з тым кожны з нас быў патрыётам. Спачатку савецкім, а цяпер беларускім. Патрыётам быць пачэсна. Але ці падзяляе гэтыя паняцці такі высокі бар'ер? І ў чым яго сэнс? Мне здаецца, трэба гэта высветліць ці хаця б падыскутаваць для пачатку.

Звернемся да такой аўтарытэтнай крыніцы, як Вялікая савецкая энцыклапедыя. Цытую яе ў сваім перакладзе і з невялікімі скарачэннямі. «Нацыяналізм — буржуазная ідэалогія і палітыка, а таксама псіхалогія, якая трактуе нацыю як вышэйшую форму грамадскага адзінства, як гарманічнае цэлае з тоеснасцю асноўных інтарэсаў усіх сацыяльных слаёў». І ў падмацаванне прыведзенага вызначэння Вялікая савецкая энцыклапедыя спасылаецца на амерыканскага гісторыка, прафесара Бойда Шэйфера, які акрэслівае такія рысы нацыяналізму:

1. Любоў да агульнай зямлі, расы, мовы і гістарычнай (традыцыйнай) культуры;
2. Імкненне да палітычнай незалежнасці і нацыянальнай бяспекі;
3. Містычная адданасць такому сацыяльнаму арганізму, як нацыя, народ;
4. Індывіды жывуць для нацыі;
5. Дадзеная нацыя павінна быць пануючай.

Адносна патрыятызму ВСЭ сцвярджае: «Патрыятызм — любоў да айчыны, адданасць ёй і імкненне служыць яе інтарэсам». І дадае: «Гістарычныя элементы патрыятызму — адданасць роднай зямлі, мове, традыцыям».

Адразу кідаецца ў вочы розніца. Нацыяналізм — ідэалогія, патрыятызм — пачуццё. Больш таго, дзякуючы амерыканскаму прафесару Шэйферу бачна, што пачуццё патрыятызму ўласціва і нацыяналісту (пункт першы), калі пад айчынай разумець агульную зямлю людзей адной расы, мовы і традыцыйнай культуры. Сукупнасць такіх людзей утварае нацыю. Таму імкненне да палітычнай незалежнасці і нацыянальнай бяспекі натуральныя для прыхільнікаў ідэалогіі нацыяналізму.

Становіцца зразумела, чаму ў СССР нацыяналізм асуджаўся і пераследаваўся, а патрыятызм ухваляўся і супрацьпастаўляўся нацыяналізму. СССР быў краінай, якую засялялі людзі розных рас, моваў і культурных традыцый. Таму аб'ядноць савецкі народ магла толькі любоў да айчыны, пад якой разумелася геаграфічная прастора, акрэсленая дзяржаўнымі межамі. Ход гістарычных падзей паказаў, што такі клей быў занадта слабым, і пры першай нагодзе краіна развалілася на пятнаццаць нацыянальных дзяржаў. Высветлілася, што большую рацыю меў У. Ленін, калі пісаў пра Расійскую імперыю як пра турму народаў, а не яго наступнікі, якія маскавалі расійскі нацыяналізм савецкім патрыятызмам.

Тут неабходна згадаць пяты пункт прафесара Шэйфера, які кажа пра імкненне дадзенай нацыі да панавання. Гэтую ідэю прафесар запазычыў у ветэрана напалеонаўскіх войнаў па прозвішчы Шавэн. І таму такі нацыяналізм мае ўласную назву — шавінізм. А паколькі пануючай у СССР была руская нацыя, то яе нацыяналізм больш правільна называць рускім шавінізмам. Які і стаў сапраўднай духоўнай прычынай радаснага разбягання саюзных рэспублік, нягледзячы на пэўныя матэрыяльныя страты.

Стаў ён і прычынай міжнацыянальных канфліктаў у постсавецкіх краінах. Характэрна, што латышы і эстонцы не пратэставалі на вуліцах у савецкія часы супраць дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, бо гэта было вельмі небяспечна. А вось сёння руская меншасць бурліва пратэстуе супраць пераносу помніка загінулым савецкім воінам, якія нацыянальныя ўрады лічаць хутчэй сімваламі каланіяльнай залежнасці. Можна не згаджацца з пераносам помнікаў, але відавочна, што на гучныя пратэсты рускамоўную меншасць уздымае пачуццё пакрыўджанай нацыянальнай годнасці і памяць пра нядаўняе дамінаванне.

Яны карысныя, бо сведчаць, што адзінай пануючай ідэалогіяй на прасторах былога СССР стаў гнаны раней нацыяналізм. Нават Беларусь, не разабраўшыся да канца з моўнай праблемай, галасуе «За Беларусь», хварэе за беларускіх спартсменаў і артыстаў і пачынае баяцца аднаўлення СССР.



Фота Юрыя Дзядзінкіна

Нам засталося разабрацца з трэцім і чацвёртым пунктамі прафесара Шэйфера. Прыметнік «містычная» адразу адкінем, бо яго з'яўленне тлумачыцца ўплывам вядомага правадыра нямецкіх нацыянал-сацыялістаў, які вельмі любіў містыку. Будзем разглядаць папросту «адданасць такому сацыяльнаму арганізму, як нацыя, народ» і «жыццё індывідуума для нацыі». Гэтыя тэзы сведчаць, што нацыяналізм ёсць ідэалогія калектывісцкага тыпу. Як сацыялізм і камунізм.

Ад апошніх ён адрозніваецца толькі тым, што не прызнае адкрытай Карлам Марксам класавай барацьбы і непазбежнасці перамогі партыі пралетарыяту. Нацыяналізм за гарманічнае грамадства з вертыкальнай рухомасцю і канкурэнцыяй, але без экспрапрыяцыі і ліквідацыі ворагаў народа. Як сказаў бы ПП РБ, нацыяналізм — за квітнеючае і стабільнае грамадства. Прынцыпова нацыяналізм адрозніваецца толькі ад чыстага лібералізму з яго тэзаю пра перавагу інтарэсаў і правоў асобы. Такая ідэалогія нарадзілася на пустых прасторах Новага Свету ў галовах эмігрантаў, адарваных ад сваіх каранёў. Такія грамады не адчувалі сябе адным народам. Але сёння і ў краінах Новага Свету няма чыстага лібералізму. Сацыяльная абарона сірых і ўбогіх, студэнтаў і пенсіянераў за акіянам часта далёка пераўзыходзіць нормы Старога Свету.

Але прафесар Шэйфер заўважыў не ўсе рысы нацыяналізму. Я мушу вярнуцца да верша Уладзіміра Караткевіча «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», тры радкі з якога вынесены ў эпіграф. Гэты верш наш вялікі паэт напісаў у 1959 годзе і прысвяціў яго мастацтвазнаўцу Н. М. Молевай, чый аповед пра творчасць нідэрландскага мастака XVI стагоддзя ён чуў. Пітэр Брэйгель Старэйшы маляваў не лубочныя карціны квітнеючай краіны, а яркія бязлітасныя сцэны п'янага разгулу разбагацелых бюргераў. Ствараў сімвалічныя сцэны разумовага і духоўнага заняпаду сытага грамадства, калі маляваў сляпых, што ідуць чарадой, трымаючыся адзін за аднаго, і падаюць у прорву ўслед за сляпым павадыром. Ці выяўляючы карціну карчомнага разгулу на фоне падзення ў мора крылатага юнака, які схацеў узняцца да сонца.

Дзякуючы таленту нідэрландскага мастака мы можам праілюстраваць розніцу паміж звычайным патрыятызмам і патрыятызмам нацыяналіста. Любоў да радзімы ўласцівая, як пісаў Францыск Скарына, і звярам лясным, якія ведаюць «норы свае». Патрыятызм нацыяналіста — гэта любоў з расплюшчанымі вачыма. Нацыяналіст бачыць хібы свайго народа і беды сваёй краіны і змагаецца за іх выпраўленне. Хто скажа, ці не стала Галандыя квітнеючай краінай дзякуючы бязлітасным карцінам Пітэра Брэйгеля-Старэйшага, празванага мужыцкім?

Падводзячы вынікі гэтаму кароткаму аналізу (бо можна яшчэ шмат што сказаць пра страты, якія панёс беларускі народ з-за адсутнасці ў яго нацыяналізму), я хачу падкрэсліць, што ў сённяшняй Беларусі нацыяналістычнымі павінны быць дэмакратычныя партыі ўсяго палітычнага спектру. Мець беларусацэнтрычныя праграмы і лідараў без ухілу на Захад ці Усход. Толькі шчырая адданасць інтарэсам свайго народа адкрые шлях да электаральнай перамогі. А не карыслівыя спробы стварыць кіруемую апазіцыю для абслугоўвання рэпрэсіўнага, антыдэмакратычнага рэжыму.

*Рэдакцыя «Новага Часу» смуткуе з нагоды смерці Юрыя Хадыкі і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім. Усім нам будзе не хапаць яго мудрага слова і глыбокай думкі.*



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

# Героі і ахвяры «Маркет-Гардэн»

**Паветрана-дэсантную аперацыі «Маркет-Гардэн» саюзнікі праводзілі супраць нацыстаў у Галандыі з 17 па 25 верасня 1944 года. У аперацыі актыўны ўдзел прымала 1-я Польская асобная парашутная брыгада пад камандаваннем Станіслава Сасабоўскага, у якой было шмат беларусаў.**



Высадка ў Галандыі, 1944 г.



Польскія дэсантнікі ў Галандыі

## Сасабоўскі. Нараджэнне легенды

Будучы камандуючы польскімі дэсантнікамі Станіслаў Францішак Сасабоўскі нарадзіўся ў 1892 года ў Станіслававе (зараз — Івана-Франкоўск). Тады горад уваходзіў у склад Аўстра-Венгерскай імперыі. У 1914 годзе яго мабілізавалі ў войска. Падчас Першай сусветнай вайны будучы генерал удзельнічаў у абароне крэпасці Перамышль і ў бітве пад Горліцамі. У баях ля вёскі Лясная ў Беларусі Сасабоўскі быў цяжка паранены. Пазней яму прысвоілі званне падпаручніка. Падчас польска-бальшавіцкай вайны афіцэр, ужо ў складзе войска адроджанай польскай дзяржавы, займаўся забеспячэннем франтавых частак.



Генерал Станіслаў Сасабоўскі

У маі 1922 года Сасабоўскаму было нададзена званне маёра. Ён скончыў Вышэйшую вайсковую школу ў Варшаве і ўвайшоў у склад Генштаба Войска Польскага. У 1937-м ужо падпалкоўніка Сасабоўскага прызначылі камандаваць 9-м пяхотным палком у Замосці, аднак праз год у сям'і здарылася трагедыя: сын афіцэра выпадкова смяротна параніўся сябе з бацькавага пісталета. Пасля гэтага Станіслаў Сасабоўскі амаль на паўгады адышоў ад службы. У лютым 1939 года яго прызначылі камандзірам 21-га пяхотнага палка і хутка далі званне палкоўніка.

У пачатку Другой сусветнай вайны полк пад камандаваннем Сасабоўскага прымаў удзел у абароне мястэчка Млава. Галоўную ролю ў абароне гэтага ўмацаванага раёна адыграла 20-я пяхотная дывізія з Баранавічаў, якая неафіцыйна называлася «беларускай». Тактычныя веды Сасабоўскага дапамаглі яму арганізаваць эфектыўную абарону і нанесці значныя страты пераўзыходзячаму па колькасці і моцы 23-му пяхотнаму палку вермахта. За гэта палкоўнік быў узнагароджаны Срэбным крыжам ордэна Віртуці Мілітары. Аднак лёс Варшавы быў вызначаны. Сасабоўскі трапіў у нямецкі палон, збег з яго і ўцёк у Францыю.

У лютым 1940 года ў Францыі афіцэра прызначылі камандзірам пяхотнага дывізіёна 1-й польскай дывізіі грэнадзёраў, потым перавялі ў 4-ю польскую пяхотную дывізію. У чэрвені 1940 года, калі стала зразумела, што Францыя не ўтрымаецца, Сасабоўскі разам з 6000 сваіх жаўнераў эвакуяваўся ў Вялікабрытанію.

## Польская дэсантная брыгада

На Альбіёне Сасабоўскі ўзначаліў 4-ю стралковую брыгаду, з якой вырашыў зрабіць першую ў Войску Польскім частку «крылатай» пяхоты. Для гэтага быў сфармаваны вучэбны цэнтр у Ларга-Хаўз у Шатландыі. У мястэчку Рынгвэй ля Манчэстэра функцыянаваў брытанскі цэнтр па падрыхтоўцы парашутыстаў, у якім працавалі і польскія інструктары.

Насамрэч, спробы сфарміраваць дэсантныя часткі Войска Польскага рабіліся яшчэ ў міжваенны час: у 1930-я гады ў Быдгашчы існаваў Цэнтр падрыхтоўкі парашутыстаў. Але значная частка яго спецыялістаў загінула ў баях верасня 1939 года. У Вялікабрытаніі прыйшлося рабіць усё ад пачатку. Нават большасць рыштунку польскім жаўнерам давялося набываць за свае грошы. Англійская дапамога пачалася толькі ў 1943 годзе, калі быў зацверджаны штатны склад 1-й Польскай асобнай парашутнай брыгады.

У гэтае падраздзяленне прымалі найбольш падрыхтаваных жаўнераў. Яго дэвізам былі словы: «Самая кароткая дарога». Ён тлумачыўся проста: польскія дэсантнікі хутчэй за ўсіх іншых вярнуцца на Радзіму — яны прызямляцца на галовы ворагаў.

У 1-й Польскай асобнай парашутнай брыгадзе служылі 2200 жаўнераў. Сярод іх было багата ўраджэнцаў Заходняй Беларусі: у 1942–1943 гадах шыхты яе папоўнілі жаўнеры Арміі Андэрса. Сярод іх быў і 23-гадовы беларус, ураджэнец вёскі Каралёўцы Вілейскага павета Віленскага ваяводства Васіль Мікалаевіч Дурэйка.

У 1941 годзе ён быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію і служыў у ёй да лета 1942 года, пакуль не быў пераведзены ў Войска Польскае, якое фармавалася ў СССР. Першапачаткова Дурэйка служыў у артылерыі, але ў студзені 1943-га яго перавялі ў пяхоту, а ў чэрвені накіравалі ў спецыяльны фільтрацыйны лагер у Шатландыі, дзе беларус атрымаў прызначэнне ў парашутную брыгаду. Ён стаў шараговым 3-га дэсантнага батальёна, і з сакавіка 1944 года праходзіў навучанне на базе Рынгвэй.

## Замест Польшчы — у Галандыю

Першай і апошняй бітвай Другой сусветнай вайны, у якой была выкарыстана польская брыгада, стала аперацыя «Маркет-Гардэн». Яна была накіравана на захоп мастоў і пераправаў у Галандыі (у Эйндховене, Грэйве, Ніймегене і Арнэме) і ўтрыманне іх да моманту падыходу 30-га брытанскага корпуса пад камандаваннем генерала Браяна Хоракса. Аперацыя дэсантных сіл мела назву «Маркет», а наземныя войскі выконвалі задачы па плане «Гардэн». Парашутысты павінны былі дэсантавацца на паўднёвым беразе Рэйна, у раёне мястэчка Арнэм, і дэблакаваць акружаных на той момант нацыстамі брытанскія падраздзяленні.

Сасабоўскі ад пачатку аперацыі адзначаў яе кепскую падрыхтаванасць. Сапраўды, саюзнаму камандаванню не хапала выведвальнай інфармацыі пра немцаў у раёне баявых дзеянняў (брытанцы, напрыклад, «прагледзелі» дзве танкавыя дывізіі СС, якія немцы «схавалі» ў лесе і, што самае кепскае, скінулі дэсанты занадта далёка ад мастоў). Акрамя гэтага не было каардынацыі паміж падраздзяленнямі саюзнікаў і адсутнічала забеспячэнне дэсантаў боепрыпасамі і палівам.

21 верасня 1944 года частку польскіх дэсантнікаў скінулі ў раёне вёскі Дрыль. Другую палову парашутыстаў Сасабоўскага (у тым ліку 3-ці батальён, у складзе якога быў Васіль Дурэйка) 23 верасня 1944 года высадзілі ля Грэйва. У выніку польскія жаўнеры апынуліся ў цэнтры «асінага гнязда». Ужо падчас прызямлення дэсантнікі аказаліся пад агнём кулямётаў 9-й танкавай дывізіі СС, у выніку чаго было забіта 5 парашутыстаў. «Тым, хто завіс у паветры, падарожжа да зямлі здавалася вечнасцю. І за гэты час цябе тысячу разоў маглі забіць», — апісваў тыя падзеі адзін з дэсантнікаў. Але, нягледзячы на супраціў нацыстаў, польскім жаўнерам не толькі ўдалося разгарнуць абарону, але і ўзяць у палон 11 салдат вермахта.

Перад адпраўкай у Галандыю польскія дэсантнікі атрымалі спецыяльныя курткі «Denison smock», у якіх былі вялікія кішэні для супрацьтанкавых мін. Пасля прызямлення парашутысты Сасабоўскага змаглі ўкапаць іх у зямлю. Такім чынам быў зроблены бяспечны перыметр абароны. Пераправа праз раку павінна была ажыццяўляцца паромам, але той быў знішчаны. Пераправляцца давялося на гумавых лодках. Пад шчыльным агнём немцаў на іншы бераг спачатку здолела перабрацца ўсяго каля трох дзясяткаў польскіх жаўнераў.

У сваіх успамінах Васіль Дурэйка адзначаў, што ў польскай дэсантнай брыгадзе было шмат беларусаў, якія паходзілі з яго роднай Вілейшчыны. «На жаль, толькі некалькі чалавек з майго аддзялення выйшлі з таго бою жывымі і без цяжкіх раненняў», — падкрэсліваў Васіль Мікалаевіч.

24 верасня яшчэ 153 польскім жаўнерам удалося пераправіцца на супрацьлеглы бераг. «Мы пераправіліся на другі бок. Ідзем па мястэчку. Чую гучны крык: «Herr Feldfebel, es sind Tommies» («Гер фельдфебель, гэта англічане», — ням.). Тут я зразумеў, што мы ў сярэдзіне нямецкіх пазіцый. Аддаю загад: «Кладзіся», і ўсе нашы хутка кідаюцца на зямлю. З усіх бакоў чуецца страляніна. Немцы, відавочна, у роспачы, страляюць ва ўсе бакі. Пад прыкрыццём уласнага агню мы адыходзім», — апісваў тыя баі адзін з польскіх афіцэраў.

Немцы хутка акружылі польскіх парашутыстаў, аднак канчаткова знішчыць іх не ўдалося. У ноч з 25 на 26 верасня дэсантнікі пад камандаваннем Сасабоўскага прыкрывалі адыход брытанскіх калег з катла. У выніку баёў 1-я польская брыгада страціла 23% асабовага складу. Сасабоўскі быў упэўнены, што бітву яшчэ можна выйграць, калі яго жаўнераў падтрымаюць сілы 30-га брытанскага корпуса, аднак гэтую ідэю «не заўважылі». Англічане абвінавацілі польскага генерала ў правале «Маркет-Гардэн». «Я больш не жадаю іх бачыць тут. Можаце выслаць іх у Італію», — напісаў пра польскую брыгаду ў адным з лістоў камандуючы аперацыяй брытанскі маршал Бернард Мантгомеры.

## Забыццё і памяць

У снежні 1944 года Станіслава Сасабоўскага вызвалілі з пасады камандзіра паветрана-дэсантнай брыгады і накіравалі ў тылавыя часткі. У 1947 годзе 1-я Польская асобная парашутная брыгада была распушчана. Праз год генерал Сасабоўскі быў дэмабілізаваны.

Да самай смерці ў 1967 годзе адзін з родапачынальнікаў польскіх паветрана-дэсантных войскаў працаваў на фабрыцы электрычных рухавікоў. У 1969 годзе парэшткі генерала перавезлі на Радзіму і пахавалі на вайсковых могілках Павонзкі ў Варшаве. У 2006 годзе галандская каралева Беатрыкс узнагародзіла 1-ю Польскую самастойную парашутную брыгаду найвышэйшай галандскай узнагародай — Вайсковым ордэнам Вільгельма. Генерал Станіслаў Сасабоўскі быў пасмяротна ўзнагароджаны медалём Бронзавага Ільва.

Узнагароды атрымаў і беларус Васіль Дурэйка. 16 кастрычніка 1944 года за ўдзел у аперацыі «Маркет-Гардэн» ён быў узнагароджаны «Баявым парашутным знакам». У ліпені 1946 года на грудзях жаўнера з'явіўся польскі «Вайсковы медаль», а пазней — брытанскія «Абарончы медаль», «Медаль за вайну 1939–1945» і «Зорка за Францыю і Германію». Пасля вайны Дурэйка вырашыў не вяртацца ў Беларусь, з'ехаў у ЗША, дзе і памёр у 1984 годзе.

# Слухаць, разумець і суперажываць

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Нягледзячы на тое, што эпоха CD-дыскаў адыходзіць у мінулае, многія музыканты ўпарта прапануюць слухачам свае кружэлкі, быццам бы абвяргаючы аматараў інтэрнэт-пампаванай музыкі. Прапануем агляд новых рэлізаў.**

## Люстэрка метафізікі беларускай душы

З'яўленне фальклорных дыскаў, асабліва такой якасці ўнікальнага песеннага матэрыялу, аўтэнтычнасці выканання і афармлення дыска, як альбом «Дарожанька» дуэта «Старое сяло», сведчыць аб тым, што ў яго ўдзельнікаў Васіля Грыня і Юліі Літвінавай былі на гэта важкія прычыны. Першая і




галоўная — захаваць той спеўны скарб, які яны зафіксавалі падчас сваіх этнаграфічных вандровак па вёсках усходняга і заходняга Палесся.

Таму складальнікі праграмы альбома «Дарожанька» пастараліся, каб яго праграма як мага больш поўна адлюстроўвала тую шматграннасць спеўнай культуры Палескага рэгіёну. На прэзентацыі дыска «Дарожанька» ў культурнай прасторы «Кніжная шафа» дуэт прапанаваў слухачам відэазапісы аўтэнтычных выканаўцаў з палескіх вёсак. У прыватнасці, фальклорнага дуэта з вёскі Беразь Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці Кацярыны Сцяпанаўны Блоцкай і Амальяна Ціханавіча Страха, якім удзельнікі дуэта выказвалі шчырую падзяку.

Іх унікальную манеру выканання дуэт «Старое сяло» ўзнаўляе ў песнях бяседнай тэматыкі («Пойду я в садочак», «Чэша хлопец кудры»), у чумацкіх («Ды чые ж волы») і рэкруцкіх («Чэго салавейка») песнях, песнях на вячоркі («Ой, добрэ тому»), інструментальных найгрышах і маршах у выкананні акардэаніста А. Крукоўскага («Генспансер»)...

У якасці сюрпрызу на дыску прадстаўлены беларускі варыянт «эмігранцкай песні», якая завецца на палескі лад «Гамэрыка». Песня была падараваная дуэту брэстаўчанкай Ларысай Быцко. Гэта горкая балада (па зместу і танальнасці аповеду яе можна аднесці да «журботных спеваў» — пачаткаў беларускага блюзу, як іх вызначае бард Раман Яраш) распавядае пра лёс працоўнага эмігранта з Беларусі ў Амерыцы, які цяжкай працай зарабляў «тыя цэнты», а ў выніку яе абабралі капіталістычныя «акулы»...

Удзельнікі дуэта «Старое сяло» зрабілі ўсё магчымае, каб іх першы сольны альбом стаў падзеяй у айчыннай фанаграфіі.

## «Haina»: эксперымент у межах традыцыі

Калі трапляеш на канцэрт беларускага гурта «Haina», дык уражанні ад яго музыкі застаюцца вельмі моцныя, і разам з тым выклікаюць шмат пытанняў адносна стылістыкі ды інструментаў: ці то традыцыйны камерны аркестр захапіўся рок-музыкай, ці то рок-музыканты вырашылі паэксперыментаваць у галіне сімфа-року з дапамогай баяна (на ім грае Ілля Паплеўка), скрыпкі (Кацярына Кузьміна), бубнаў (за ўстаноўкай шчыруе Аляксандр Кузьмін).




Гэтым складам гурт «Haina» запісаў і выдаў альбом «Прыцягненне», які займае на стылістычнай палітры мала асвоеную айчыннымі выканаўцамі нішу эксперыментальнага, мадэрнавага року. Тое пачынаеш разумець, калі на прайгравальніку загучыць першы трэк пад назвай «16», які можна залічыць intro да альбома. Слухач адразу заўважыць віртуозныя скрыпічныя сола, бывае імправізацыйнага, нават псіхадэлічнага кшталту, што пераплятаюцца з акордамі баяна, які часамі нагадвае гучанне «хэманд-аргана». Баяніст гурта Ілля Паплеўка выконвае і ролю басіста, калі ўзмацняе гукі басовага рэгістра свайго інструмента. Іх рытм акцэнтуючы ударныя інструменты, звычныя для рок-гурта. Гэта сугучча акустычных інструментаў дае падставы ўзгадаць лепшыя ўзоры арт- і сімфа-рока.

Наступныя трэкі гурта «Haina» — «Мяжа» і «Прыцягненне» — ужо прадстаўляюць лідара гурта Іллю Паплеўку ў якасці сталага аўтара тэкстаў і вакаліста. Пераменлівы рытм кампазіцыі, экспрэсіўныя скрыпічныя сола даюць магчымасць лірычнаму голасу Іллі перадаць разнастайныя, часам змрочныя, пачуцці, якія ствараюць фон для разгортвання ўнутранай драматургіі альбома. Ужо ў наступнай кампазіцыі «Мяжа» музыка становіцца больш светлай і напаўняецца рамантычным нотам і пачуццям. Кампазіцыі «Гадзіннік» і «Ты абяцала» («Васількі») ужо поўняцца святлом надзеі на змены да лепшага, якое выяўляюцца менавіта дзякуючы выканаўчаму майстэрству.

## За Ваячакам — Нагавіца

Зміцер Вайцюшкевіч праславіўся сваім жаданнем пазнаёміць маладых слухачоў з узорамі высокай паэзіі, пакладзенымі на музыку. Як беларускай, так і замежнай. Таму ў фанаграфічным спісе Вайцюшкевіча, акрамя песень на вершы Караткевіча і Барадуліна, Бураўкіна і Някляева, Дранько-Майсюка і Камоцкага, ёсць творы на вершаваныя радкі шведскіх аўтараў, песні паводле японскай паэзіі.

Таксама пабачылі свет дыскі з песнямі на вершы Маякоўскага, польскага паэта Рафаіла Ваячака. Цяпер Вайцюшкевіч і гурт «W-Z orkiestra» прадстаўляюць новую кружэлку з песнямі Яраміра Нагавіцы «Камета», якія былі ім перасяпаваныя па-беларуску ў перакладах Воранава і Хадановіча.




Чэх Ярамір Нагавіца — шырока вядомы ў Еўропе выканаўца аўтарскіх твораў. Нагавіца не баяўся ў сваіх песнях крытычна выказвацца пра тагачасныя чэхаславацкія ўлады, якія заўсёды ішлі ў рэчышчы сацыяльных эксперыментаў партыйнага кіраўніцтва Савецкага Саюза. Выканаўца зазнаў на сваім шляху шмат цэнзурных забаронаў, перашкодаў у творчасці, а таксама фактычна пераежыў выгнанне з роднага горада Пльзень. Але выканаўца мужна працягваў сваю канцэртную дзейнасць, ствараў свае кампазіцыі, напоўненыя палітычным кантэкстам, сатырай і гумарам на хвалюючыя тэмы.

Цяпер Ярамір Нагавіца — адзін з самых тытулаваных выканаўцаў аўтарскай песні ў Чэхіі. На яго рахунку 6 сольных і 10 канцэртных альбомаў, незлічоная колькасць бокс-сэтаў, сінглаў, міні-альбомаў і саўндтрэкаў да мастацкіх служак, шматлікія ўзнагароды айчынных музычных конкурсаў.

Няпростыя жыццёвыя і творчыя акалічнасці ў чымсьці роднаць чэха Нагавіцу і беларуса Вайцюшкевіча.

Альбом «Камета» сабраў у студыі музыкантаў гурта «W-Z orkiestra», якія спрычыніліся да аркестровак песень. У іх атрымаўся сапраўды лірычны альбом з простымі аранжыроўкамі ды шчырымі мелодыямі. Выдатны, прачулены вакал Зміцра яшчэ больш падкрэслівае драматызм песень антываеннай і філасофскай накіраванасці. Такіх, як «Святло Сараева», «Калі заўтра роўна ў шэсць», ці сумны гумар песень «Як бралі мяне ў салдаты», «Стары муж». Зміцер таксама, услед за Нагавіцам, па-майстэрску гуляе з настроямі слухачоў у вясёлых саркастычных прыпеўках «Вядома і дэбілу», якія гучыць кантрастам мінорным мелодыям.

Сярод праграмы альбома «Камета» ёсць і сапраўдныя перліны светлых лірычных спеваў, якія надаюць яму рысы пачуццёвай завершанасці — «Камета», «Маланка», прысвячэнне Коэну «Танец смерці», «Амерыка», якія распавядуць пра іх аўтара — Яраміра Нагавіцу — дастаткова, каб палюбіць творчасць гэтага чэшскага аўтара і больш глыбока знаёміцца з ёй на мове арыгінала.

Завяршае альбом сапраўды гімн каханню і дабру — кампазіцыя «Іерусалім», якая ў інтэрпрэтацыі Зміцра Вайцюшкевіча ўспрымаецца як зварот да ўсіх нас, слухачоў, не знішчаць у сабе дабрату і спагаду, каб заставацца людзьмі ў любых акалічнасцях.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| КВИТАНЦИЯ | ИУП «Час навінаў» (получатель платежа) | | | |
| | отд. №539 ОАО «Белинвестбанк» (наименование банка) | | | |
| | Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| | УНП* | 190790926 | | |
| | (фамилия, имя, отчество, адрес) | | | |
| | Вид платежа | | Дата | Сумма |
| | Период подписки указывает абонент | | | |
| | Плательщик | | | |
| Кассир | | | Пеня | |
| | | | Всего | |

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
ці **атрымаць бясплатна** (8029) 666 45 29 Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20 капеек, квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 901

Падпісана да друку 16.09.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.